PL ISSN 0546 - 1960
NR INDEKSU 366714

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

№ 34 (1893) ГОД XXXVII БЕЛАСТОК 23 ЖНІЎНЯ 1992 г. ЦАНА 2000 зл.

## Пэндзлем па цудзе!

Многія з турыстаў, якія сёлета наведваюць Белавежу, дапытваюцца, ці існуе яшчэ той «цуд», пра які вельмі гучна было ў мінулым годзе? Таму, хто пра яго не чуў, растлумачваю, што гутарка тут ідзе пра вобраз людской галавы, які паявіўся на адным з дубоў, што расце ў Палацовым парку. Дуб гэты вылучаецца яшчэ адной незвычайнай асаблівасцю - выдзяляе нейкую энергію, якая аслабляе чалавека.

Выява людской галавы на дубе за зіму была крыху пашарэла, але не знікла! Яе надалей можна было глядзець. Праўда, падыходзіць пад самае дрэва ўжо не дазваляла дырэкцыя нацыянальнага парку. Экскурсаводам была аб'яўлена станоўчая забарона падводзіць групы пад дуб. Той, хто б не паслухаўся, патраціў бы на нейкі час права вадзіць турыстаў. Шуму нарабіў і ваяводскі захавальнік прыроды інж. Тадэвуш Хайнацкі, які на адным з пасяджэнняў Савета Белавежскага нацыянальнага парка паскардзіўся на прэсу, што яна, ствараючы /?/ сенсацыю, толькі прыносіць шкоду самому дрэву. Праўду кажучы, меў крыху рацыі, бо людзі пратапталі сцежку пад дуб і нават пачалі адрэзваць фрагменты кары - на памятку! А дуб гэты ўжо раней не быў у добрай кандыцыі. Калі ў 1988 г. над цэлай групай, складзенай з 16-ці дубаў, якія растуць на гэтым месцы, выконваліся прадпрыемствам «Хірургія дрэў» з Прудніка захаваўча-наглядальныя працы, было сцверджана, што менавіта гэтае дрэва выяўляе тэндэнцыю да замірання.



*На здымку, які быў зроблены ў мінулым годзе, вы бачыце фрагмент дуба з „цудам". Сёлета „галаву" замалёўвалі аж шэсць разоў, але і так цалкам замаляваць не ўдалося.* **Фота з архіва**

І вось сёлета ў Белавежу ізноў прыехала тое ж самае прадпрыемства, каб «падлячыць» дубы. Ацэнка, выстаўленая «цудоўнаму» дрэву чатыры гады назад, пацвердзілася цалкам. Пры ім жа зараз было найбольш занятку. Шмат галін трэба было адрэзаць - яны пасохлі. Цікава, што працаўнікі, пад націскам інфармацыі аб «цудоўнасці» дрэва, усе працы на ім выконвалі ў стане вялікай псіхічнай напружанасці. Калі ў пэўным моманце ад пілы адарвалася ручка і трапіла працаўніка ў галаву /на шчасце - без прыкрых наступстваў!/, усе палічылі гэта як помсту дрэва. Працаўнік, які ў сваю чаргу атрымаў загад замаляваць вобраз галавы, ажно спацеў з перажыванняў і толькі чакаў, калі здарыцца з ім нейкае няшчасце. Але нічога такога не сталася. Толькі, што, «галаву» замалёўваў ён аж шэсць разоў, а і так цалкам замаляваць не ўдалося!

Падвечар, 18 ліпеня г.г., я і д-р Сяр-

*Працяг на стар. 3*

## ПАКРАЖА Ў ГП БГКТ

У аўторак 11 жніўня «Газета Всpулчэсна» паведаміла аб пакражы ў будынку Галоўнага праўлення Беларускага грамадска-культурнага таварыства ў Беластоку. У натацы згадвалася, што зладзеі забралі наступныя прадметы: відэамагнітафон, радыёмагнітафон, відэакамеру, камплект аўдыёапаратуры і... 50 штук золата (!).

У аўторак, як сказалі мне працаўнікі Таварыства, не былі яшчэ ацэнены ўсе страты. У будынку ГП БГКТ перахоўваецца таксама гукаўзмацняльная апаратура, якой у мінулым карыстаўся гурт «Альбаросіка» - толькі хлопцы з «Альбарасікі» ведаюць, што было ў камплекце. Не вельмі вядома таксама, у чым справа з гэтым золатам, - намеснік старшыні ГП БГКТ спадар Ян Сычэўскі быў якраз у паліцыі, дык не ўдалося з ім пагаварыць.

Зладзеі, праўдападобна, узламаліся ў будынак ад падворка. Украдзеная апаратура перахоўвалася ў шафах у клубнай зале Таварыства. На шафах гэтых, сапраўды, можна было заўважыць сляды ўзлому. Іначай справа мясцца з забеспячэннем будынка ад падворка. Ганак Таварыства абудаваны звонку кратамі. Замкі на гэтых кратах замыкаюцца ад сярэдзіны. Дадаткова, паміж кратамі і вокнамі ганка, знаходзіцца яшчэ жалезная сетка. У аўторак усе гэтыя забеспячэнні былі ўжо на сваім месцы.

У сакратарыяце Таварыства перахоўваецца таксама камп'ютэрная апаратура, на якой рабіўся раней набор нашага тыднёвіка. Гэтай апаратуры зладзеі не кранулі. З аднаго боку, магло так стацца таму, што апаратура гэтая не такая ўжо і малая сваімі памерамі, а з другога ж - у Беластоку яна унікальная. Не ўдалося б яе прадаць. Нельга, аднак, тут спадзявацца, што зладзеі не зробяць другога падыходу. Трэба ўжо цяпер думаць, як забяспечыць тое, што засталося. Найлепей камп'ютэры гэтыя вярнуць у «Ніву» на Сураскую 1. На Сураскай, акрамя кратаў у вокнах, за маёмасцю будынка круглыя суткі сочыць старож. А да гэтага ж, камп'ютэры ізноў служылі б справе, дзеля якой і былі куплены: выдавецкаму руху беларусаў у Польшчы.

**АЛЯКСАНДР МАКСІМЮК**

## НА РАТУНАК ЦЭРКВАМ

Аб ахове звыш 600 старадаўніх цэркваў гаварылі ў панядзелак /10 жніўня г.г. - рэд./ у Міністэрстве культуры прадстаўнікі Царкоўнай камісіі Таварыства аховы помнікаў, Аб'яднання украінцаў у Польшчы і Аб'яднання украінцаў Падляшша.

Як паведаміла дырэктар Бюро па справах нацыянальных меншасцяў Міністэрства культуры і мастацтва Багуміла Бэрдыхоўская, у Польшчы - галоўным чынам ў паўднёва-ўсходняй яе частцы - у даны момант знаходзяцца 643 каштоўныя помнікі царкоўнай архітэктуры. Ад заканчэння вайны да 1989 года, калі стварылася праграма іх аховы, беззваротна падвярглося знішчэнню звыш 300 цэркваў.

Кансерватарскія працы вядуцца за кошт ваяводаў, мясцовых самаўрадаў, праваслаўных і грэка-каталіцкіх прыходаў, а таксама Міністэрства культуры, якое кампенсуе да 23 % іх кошты.

У гэтам годзе на ахову усіх царкоўных помнікаў адведзена з дзяржаўнага бюджэту 800 мільёнаў злотых. Паводле Б. Бэрдыхоўскай, на гэтай сустрэчы Генеральны захавальнік помнікаў абяцаў перадаць на гэту мэту дадаткова каля 1 мільярда злотых.

За самыя тэрміновыя прысутныя палічылі, між іншым, працы над аднаўленнем царквы ў Рыбатыцкай Пасадзе, Лопянцы, Шчабжашыне і на могільніку ў Холме.

/"Gazeta Wyborcza", 12.08.1992 г./

**ДА ЎВАГІ ПАДПІСЧЫКАЎ !**
**Калі вы не паспелі падпісацца на „Ніву" на IV квартал 1992 года на пошце або ў аддзяленні „Рух", можаце гэта зрабіць у нашай рэдакцыі. Як заказаць падпіску ў рэдакцыі даведаецеся на 12 старонцы.**




Частка VII

Калі стараюся пераконваць маіх размоўцаў, што былая сацыялістычная дзяржава гамулкоўскага ці геркаўскага тыпу таксама ў мінулым рэзка асуджалася беларускімі сялянамі за „несправядлівыя цэны" на вясковыя і гарадскія тавары, прыблізна саракагадовы селянін рэзка абрывае мяне:

„Ну і што з таго, што наракалі? Праўду гаворыце, наракалі. Я і сам наракаў і то не толькі ў сям'і, не толькі ў размове з суседзямі, але і на забранях, калі прыязджалі да нас а то войт, а то воевода, а то хтось з партыі. Давалі мы ім чаду колькі ўлезе. Але калі сегодня аб гэтом падумаю, то бачу, што мы гаварылі глупства. Вы ж толькі падумайце, мужыку плацілі за літэр малака па пяць злотых, а прадавалі ў склепі па два з палавінаю злотых за літэр. Вы знаеце, што людзі рабілі? Некаторыя з мужыкоў то паступалі так: накупіт у склепі літроў дваццаць або трыццаць малака па два з палавінаю злотых за літроўку, бахне іх у сvае малако, перамешае ўсё і прадаст усе малако па пяць злотых за літэр, от і мае чысты зыск. А чы ж з збожам і хлебом не было тое самае. Пачці што напалавіну быў гатовы хлеб танейшы, чым збожэ. Ну, то што мы рабілі? Прадавалі збожэ за добру цэну, пасля куплялі хлеб за цэну на палавіну меншу і не толькі самі елі гарадскі хлеб, але свіне ім кармілі. Ой пажылі па-панску людзі за сацыялізму! Цяпер малака гарадскога не будзеш улiваць у свае, другі раз яго прадаваць, бо тое гарадское тры разы даражэйшае чым нашэ. А чы вы ўвогуле знаеце, што цяпер нам за літэр малака плацят тры разы менш, чым мы плацім за літэр мінэральнае вады? Знаеце?! То вядомо, што воду мінэральну з земли прэ аўтаматычно, а малако, каб было, то трэбо колькі карову пакарміці. Гэты капіталізм то сідзіт нам у горлі і на нашом гарбові".

## БЕЛАРУСКІЯ КАПІТАЛІСТЫ

Пераконваць людзей, якія так думаюць, вельмі цяжка. Тым болей, што многія з іх аргументаў лагічныя і пераканаўчыя. Аднак нават там, дзе сістэма свабоднага новага рынку як бы наяўна праяўляе сваю праввату і перавагу, размова з сялянамі даволі цяжкая. Для прыкладу, людзі зусім не разумеюць, што гаспадарчы механізм, які пазваляў на тое, каб аплачвалася купляць малако або хлеб у магазіне і прадаваць яго з зыскам ізноў дзяржаве або карміць хлебам жывёлу, быў механізмам нездаровым і па сутнасці шкодным для ўсёй дзяржавы і яе грамадзян. Сялянскія размоўцы гавораць, што так было добра і што было б дасканала, калі б мінулае вярнулася ізноў.

Беларускі селянін у Польшчы апынуўся ў свайго роду пастцы. Вядома, што калі хочам, каб яго прадукты давалі яму добры даход, мусяць яны быць канкурэнтнымі ў адносінах да падобных прадуктаў, выпушчаных на Захадзе, якія ўсё шырэйшым рэчышчам будуць плысці ў Польшчу. Гэтай ракі прадуктаў і тавараў ніхто не паўстрымае, калі Польшча прагне стацца поўнапраўным членам заходнееўрапейскай гаспадарчай супольнасці. А як канкураваць беларускаму ці польскаму селяніну з селянінам галандскім ці французскім, які валодае такой сельскагаспадарчай тэхнікай, якая нам і не сніцца?.. І справа другая. Элементарным носьбітам энергії ў сучаснай сельскай гаспадарцы з'яўляецца электраэнергія і бензін. І як жа беларускі ці польскі селянін можа дагнаць галандскага ці французскага селяніна, калі ўжо сёння ў цэнах абсалютных, не гаворачы аб рэлятыўных, бензін у Польшчы даражэйшы, чым у Галандыі, Францыі ці Амерыцы?..

Ці ж можам у такой сітуацыі дзівавацца, што ў Кракаў прывозяць транспарт супер-трускалак з Каліфорніі ў ЗША, якія таннейшыя, чым польскія трускалкі? Тое ж датычыць і многіх, многіх тавараў. Тэзіс Леніна аб тым, што перагнаць заходні капіталізм гэта значыць перагнаць яго па прадукцыйнасці працы, абавязвае. Толькі як яго перагнаць на беларускім коніку?..

**АЛЕСЬ БАРСКІ**



## ТЭЛЕФАКСАМ З МЕНСКА

### ГАЛОДНАЯ СПЁКА

Сур'ёзная пагроза голаду навісла над Беларуссю. Па прагнозах спецыялістаў у гэтым годзе рэспубліка збярэ каля пяці мільёнаў тон збожжа, што на два мільёны менш, чым летась. Мала надзеі і на другі хлеб беларусаў - бульбу. Яе таксама неміласэрна губіць летняя спёка.

### ВЫНІКІ АНКЕТЫ

Большасць апытаных Інстытутам сацыялагічных даследаванняў АН РБ беларусаў чакае ўвядзення нацыянальнай валюты. У палавіне анкет выказана пажаданне да кіраўнікоў рэспублікі менш гаварыць - больш працаваць. Амаль у раўнавазе застаецца колькасць жыхароў рэспублікі, якія выказваліся за аднаўленне СССР і за тое, што трэба прыслухоўвацца да прапаноў лідэраў БНФ.

### З НАГОДЫ СВЯТА

З дня святкавання абвяшчэння суверэнітэту Рэспублікі Беларусь Плошча Незалежнасці, што ў Менску, нарэшце, атрымала афіцыйнае пацвярджэнне свайго імя. Аб гэтым сведчыць яе азначальная дошка побач з Домам урада. Ці паўплывае гэта нейкім чынам на лёс помніка Уладзіміру Ільічу Леніну? Пакуль гэта пытанне застаецца адкрытым.

### КАНГРЭС САЎМІНУ НЕ ТАВАРЫШ

На мінулым тыдні ў Салігорску адбыўся кангрэс незалежных і свабодных прафсаюзаў Беларусі. Удзельнікі гэтага форуму прынялі мемарандум, у якім згадзіліся аб'ядналь свае намаганні на распрацоўку сумесных сацыяльна-эканамічных праграм. Лідэры нефармальных прафсаюзаў дамовіліся таксама не аказваць сацыяльнай падтрымкі Савету Міністраў рэспублікі да таго часу, пакуль урад не раздзеліць маёмасць афіцыйных прафсаюзаў паміж усімі існуючымі ў Беларусі канфедэрацыямі працы.

### РАЗАМ І ПРАЎДУ ШУКАЦЬ ЛЯГЧЭЙ

У Менску створаны аргкамітэт Беларускае Лігі па правах чалавека. Як паведаміў старшыня гэтага камітэта, народны дэпутат рэспублікі Яўген Новікаў, Ліга будзе аказваць усім пакрыўджаным таталітарнай сістэмай людзям юрыдычную дапамогу, змагацца за паляпшэнне ўмоў утрымання вязняў у беларускіх турмах.

Дарэчы, у аргкамітэт уваходзіць вядомая беларуская пісьменніца Святлана Алексіевіч.

### ДАМОВА З РАСЕЙСКІМ «ПЕНТАГОНАМ»

Міністэрства абароны Беларусі заключыла пагадненне з расейскім «Пентагонам». Згодна з гэтым дакументам Расея абавязалася, нарэшце, унасіць арэндную плату за выкарыстанне беларускай зямлі і яе недраў.

Акрамя таго, дасягнута дамоўленасць, што ў хуткім часе расейскі ўрад аддасць беларускаму ваенна-прамысловаму комплексу 6 мільярдаў запазычаных рублёў.

**МІКОЛА ДЗЯБЁЛА**

## З мінулага тыдня

**Беласточчыну наведаў епіскап Гродзенскі і Ваўкавыскі Валянцін.** Гродзенская епархія была аднаўлена чатыры месяцы таму назад, а прыезд епіскапа Валянціна ў Беласток быў першым яго афіцыйным візітам за граніцай. Дастойны госць і **архіепіскап Беластоцкі і Гданьскі Сава** прынялі ўдзел у святкаванні Смаленскай іконы Божай Маці - Адзігітрыі ў Супраслі.

**Беларускія спартсмены** - удзельнікі XXV Алімпійскіх гульняў у Барселоне здабылі 27 медалёў, у тым ліку - 13 залатых.

**Сусветны з'езд украінцаў адбыўся** ў Яраслаўі. Колішнія жыхары паўднёва-ўсходніх раёнаў Польшчы прыехалі на з'езд і з-за граніцы: са Злучаных Штатаў Амерыкі, Канады і Украіны. Былі супольныя малітвы, папулярна-навуковыя канферэнцыі на тэму культуры ўкраінскай грамадскасці і канцэрты хораў з Украіны. Галава Грэка-каталіцкага касцёла ў Польшчы біскуп **Іван Мартыняк** высвяціў нядаўна адрэстаўрыраваную царкву ў Хотынцы. Была таксама адслужана ўрачыстая паніхіда над магілай аўтара гімна Украіны кс. Міхала Вярбіцкага ў Млынах.

**Польшча налічвае 38,3 мільёна насельніцтва і па ліку жыхароў знаходзіцца на 27 месцы ў свеце.** Па-за межамі яе пражывае каля 12 мільёнаў палякаў і людзей польскага паходжання. У Злучаных Штатах Амерыкі пражывае 5,6 млн. палякаў, у краінах былога СССР - 2,5 млн., у Нямеччыне - 1,5 млн. і ў Францыі - 1 млн.

**Пачала працу верыфікацыйная камісія Фонда «Польска-нямецкае прымірэнне».** Першыя выплаты пацярпеўшыя ад III Рэйха атрымаюць у верасні г.г. У першую чаргу кампенсацыя будзе выплачвацца тым, якім за восемдзесят. З Беластоцкага, Ломжынскага і Сувальскага ваяводстваў чакае дапамогі 500 такіх чалавек. У сярэднім атрымаюць яны па 7,5 мільёна злотых.

**Куратория асветы і выхавання ў Беластоку выдзеліла на рамонты** школ 11,5 мільярда зл., калі ў параўнасці патрэба 36 мільярдаў зл. Грошай хапіла на праведзенне рамонтаў толькі ў некаторых школах, а менавіта ў трыццаці падставовых і адзінаццаці сярэдніх. Рамантаваць школы ў такой сітуацыі дапамагаюць бацькі. Напрыклад, у школе н-р 3 у Гайнаўцы бацькі назбіралі 100 мільёнаў зл. на рамонт цэнтральнага ацяплення.

## ЯЎГЕН МІРАНОВІЧ ГАЛОЎНЫМ РЭДАКТАРАМ «НІВЫ»

У чацвер 6 жніўня праводзіўся сход рэдакцыйнага калектыву «Нівы». Абмяркоўваліся дзве справы: прынцçё ўнутранага рэгламенту працы і прапанова кандыдата на галоўнага рэдактара газеты. Як за рэгламент працы, так і за новага кандыдата на пасаду галоўнага рэдактара журналісцкі калектыў выказаўся аднагалосна.

У панядзелак 11 жніўня абмеркаваць гэтыя самыя пункты сабралася Праграмная рада таднёвіка беларусаў у Польшчы «Ніва», якая цяпер з'яўляецца выдаўцом газеты. Дыскусія вялася некалькі гадзін, уводзіліся папраўкі да прапаноў рэдакцыйнага калектыву. Пасля зацвярджэння Праграмнай радай унутранага рэгламенту працы адбылося галасаванне за новага галоўнага рэдактара. Кандыдатам журналістаў быў Яўген Мірановіч - доктар гісторыі, вядомы беларускі грамадскасці публіцыст, у 1989 годзе кандыдат у Сейм ад Беларускага выбарчага камітэта, за якога прагаласавала звыш 11 тысяч жыхароў Беласточчыны.

Праграмная рада ў тайным галасаванні выбрала Яўгена Мірановіча галоўным рэдактарам «Нівы». Свае абавязкі спадар Мірановіч пачне выконваць ад верасня.

## ПРАЗ ТЫДЗЕНЬ „У НІВЕ"

- Мы прысуджаны на супрацоўніцтва– інтэрв'ю са старшынёю Таварыства „Памост".
- Франук Грышкевіч не забыты.
- 50 гадоў даравaнага жыцця.
- Турыстычны сезон у Дубічах.
- Ігралі „Дубіны".
- Між светлай ідэяй і сумнай рэчаіснасцю.

# У КРАІНЕ ЦУДАЎ, БРУДАЎ І СВІНЕЙ

Гародня, як і Беласток, горад з падкаланіяльным менталітэтам, які прымушае тубыльцаў падаць на калені перад імперскімі сталіцамі. І якой толькі навалачы ў іх не жыве, і то добра, а ўсё нахлебніцкай, мацюгоўскай; курвы душы і сумлення, забойцы беларушчыны. Ды з'явіўся вось цуд паэзіі ў тым заплёваным месцы, утоптаным чужацкімі гарнізонамі. Другое такое сашэсце, пасля Данусі Бічэлянкі.

Кажу пра Алеся Чобата, пра ягоную кніжыцу «Год». Праўда, я і асабіста знаёмы з ім. Дануся нас звяла ў сваёй кватэры, калі ў адно паркае лета прыгнала мяне нейкае ліха ў тую заруселую на халопскі манер Гародню, але ўжо з подрыгамі пост-шляхецкай набандычанасці. Аднак сімпатыі ён у мяне тады не выклікаў. З'явілася яна пасля, калі пачаў я натыкацца на ягоныя паэтыкі ў «Ніве». Гэты марудны акулярнік ў гадах майго большага сына здзівіў мяне не майстэрствам формы - яна ў яго беспрэтэнцыёзная - а пранікнёнасцю думкі. Не купалаўскімі снамі аб Беларусі, а бязлітасным аналізам яе. Мае навыкі былога электратэхніка, мая нянавісць да непрефекцыйнасці, недакладнасці, - з высакавольтавай электрычнасцю, як з мінаю, можна адзін раз памыліцца, - словам, западозрыў я Алеся, што ён не гуманітар, а чалавек сцілага розуму. І вось выкрыў: Алесь Чобат - інжынер, канструктар, лірык матэматычных узораў. Матэматыкі выратуюць Беларусь. Прэзідэнт яе таксама матэматыкатамнік. Гродзенскі універсітэт, захліснуты расійскай правінцыйнасцю, робіцца важным, бо нацыянальным, гэтак жа дзякуючы выкладчыкам фізіка-матэматычных навук, якія першымі - пасля дацэнта Аляксея Пяткевіча па роднай літаратуры - пачалі выкладаць па-беларуску. Які парадокс: беларуская мова прыдатная для вывучэння таямніцаў галактыкаў і структураў матэрыі, але не гісторыі Белай Русі. Шалкевіча сюды трэба з ягонымі баладамі пра *«хамскую ўласць, чорную масць»!* Ён - гродзенскі акцёр - гэта Алесь Чобат у песнях.

*А сапраўды, навошта воля тая,*
*калі ўсё скончыцца і Беларусь пустая*
*забудзе мёртвых і прадасць жывых.*

Алесь не пісаў бы такіх радкоў ды і наогул анічога не ствараў бы, калі б не меў дадзеных, што гэтымі словамі ўсё ж нехта пачуецца абражаным. Калі так, дык не ўсё страчана, ёсць шанцы ў Бацькаўшчыны. *«Звар'ящею ад роднага краю!»*




Вельмі праўдападобна, што ніколі не абудзілася б муза ў душы гэтага канструктара, калі б менавіта Беларусь была нармальнай еўрапейскай краінай. Яго паэзія не ёсць захапленнем эстэтыкай слова, а ўся яна пратэст супроць ідыятызму беларускага жыцця. Паэзія гэта сумлення, блізкая небяспечнай ёй фельетоннасці альбо метафарызаванай /публіцыстычнай/ ілюстратыўнасці. Хоць здараецца і поўная эпічнасці чыстая лірыка.

*Сівыя наранку стагі,*
*палёў цішыня гарачая,*
*аблітыя сонцам лугі,*
*пад яблыняй жоўтыя паданцы,*
*чорны хлеб на сталe,*
*бор над Нёманам,*
*касцёл у Каменцы,*
*цень вайны на светлым чале...*

Вяршыня мастацкасці фразы ў ейнай афарыстычнасці. Такія перлы ў тэкстах Чобата даволі густа свецяцца, яны арганізуюць увесь матэрыял, як у вершы *„1863": "... і чатыры сыны - як чатыры дарогі".*

Іронія і самаіронія як найбольш кідкая праява інтэлігентнасці. За гэта найммацней упадабаў я худога гарадзенца скідальскай правененцыі, што працаваў інжынерам-канструктарам у кааператыве ЭлТА. З варварам не нажартуешся, ён табе зубы палічыць! Баюся аднаго: каб Алесь Чобат вытрываў гэты наш забойчы час, не апусціўся ў меланхолію.

*Сябе мардуем працаю і крыкам,*
*а Бог не слухае і церпіць, як раней,*
*калі наш плён адным глытае глыкам*
*краіна цудаў, брудаў і свіней.*

Не думаю, што сёння *„святкуюць, хто выжыў дурным і сагнутым"*, замест загінуць разумным і дастойным. Усё куды складаней адбываецца, чымсьці з тым гарбачоўскім *«абноўленым маленькім чалавекам»*. Неяк крыўдна за Алеся, што не раз і не два аціраецца ён аб архімастацкасць, так і не напрацаваўшыся над фразаю. Знакаміта пачынаецца вось, напрыклад, гэткі семантычны рытм: *«мы столькі разоў /паўтараліся ў смерці...»* І раптам упадак амаль у банальнасць: *«не хочацца жыць - /толькі праўды шукаць».* Здаецца, крыкнуў бы яму: - Ну, яшчэ падцягніся, вышэй, апошняй натугаю!... Няблагі парадокс, толькі мус яго давывівіць, як тую мутнявую фотку. Ідэнтычная нявытрымка і ў заканчэнні твора, што пачынаецца словамі: *«Добры геній ад мараў...»*

*так і кідае нас*
*ад мальбы да праклёнаў,*
*так і робім з айчыны*
*здзічэлы абшар.*

Трымайся, Алесь, свайго прыгожага адкрыцця, што *«бацькі зямля вялікая, маці зямля вялікая».*

Твой
**Сакрат Яновіч**




### НОВАЕ НЕБА

З-пад нябёсаў паваеннай Эўропы
дзіўна выглядае
цьмяны абшар ад Балтыку да Крыму -

Польшча,
заблукаўшая між ружовых аблокаў
і легалізаванай мацярнай лаянкі;

Летува
зь яе соснамі, дзюнамі, крыжамі
ля дарогаў,
пры Саветах піва не разбаўлялі,
а цяпер разбаўляюць;

старажытны, але мільённы Львоў -
але мітынгі правінцыйныя,
і ніхто ня памятае, чаго ён хоча;

далей Палесьсе -
новапаўсталыя яцьвягі;
Мыкола Шэляговыч,
ахвяра выпіванак з паэтам і бардам
Сокалавым-Воюшам
і жартаў памянёнага барда наконт
яцьвягаў, якіх жартаў Мыкола
не зразумеў -
т а к паўстаюць нацыі;

далей Гародня - асірацелы без
сацыяль-дэмакрата Ткачова клюб
«Паходня»,
асірацелая безь ідэі газэта «Пагоня»,
свая танкавая дывізыя,
свой хімічны камбінат,
свая местачковая мафія,
і страшаць Менск палякі, гуды,
татары, сэпаратысты;

за сто кілямэтраў Ліда,
дзе піва пакуль што не разбаўляюць,
дзе адбудоўваюць стары замак,
ставяць помнікі Міцкевічу, Скарыне
і Гэдыміну,
адкуль блізка да Вільні й Нёмана,
дзе літаратараў яшчэ пояць гарэлкай
нават майстры тутэйшай конегадоўлі;

далей Біскупцы, Морына, Іўе,
Бакшты, Ракаў
і іншыя мястэчкі
прадукуюць геніяў з пакаленьня
на пакаленьне;

нарэшце -
сталічнае мястэчка Менск,
якое збывае гэтых геніяў невядома
куды;

«Жыве сабе Беларусь...»;

доўгі нізкі туман
поле балота пясок вёска
туман туман туман
рыпіць воз фыркае трактар д
ожджы дождж дождж
год і дзень невядомыя

бясконцы абшар Новае Галілеі
вецер каласы варушыць -
чакае чалавека, які пойдзе па жыцце

**Алесь Чобат**



## ПЭНДЗЛЕМ ПА ЦУДЗЕ

*Працяг са стар. 1*

гей Тарасевіч пайшлі пад дуб, каб прыгледзецца, што зараз вырысоўваецца на ім. Праўду кажучы, перажылі мы шок! На свежа замаляваным месцы нам паказалася галава маладой жанчыны, бландзінкі, не надта прыгожай, апранутай у світэр, але з дэкальтэ. Цяпер шкадуем, што не зрабілі мы тады здымка. Бо ноччу над мястэчкам прайшоў лівень і назаўтра мы ўжо не маглі дагледзецца аніякай постаці. Зараз, калі глядзець на дрэва з алеі, можна ўбачыць толькі контуры нейкай нахіленай постаці - быццам жыўцом перанесенай з мішэні ў ціры.

На жаль, дагэтуль ніхто са спецыялістаў не прыехаў у Белавежу, каб абследаваць незвычайную асаблівасць гэтага дрэва. А мо старшыня Падляскага псіхатранічнага таварыства ў Беластоку сп. Тадэвуш Шэўчык зацікавіцца б белавежскім «цудам»?!

**Пётр Байко**

## ТРАСЯНКІ ПОЛЬСКАЯ, РАСЕЙСКАЯ І ... «НЕЗАЛЕЖНАЯ»

I

„Пшэводнічонцы Рады Найвыжшэй Бялорусі Станіслав Шушкевіч - мендзы іннымі, то поляк. Пшэводнічонцы Жонду Вячэслав Кебіч - тэж поляк. Пшэводнічонцы Комітэту Бэзпекі Народовэй Эдвард Шырковскі - а то кто, не поляк?! Міністэр обороны Павэл Козловскі - очывісьце, жэ поляк. Пшэводнічонцы Сэйму БНФ Зэнон Позьняк - то, за пшэпрашэнем, свуй чловек і гжэчны католік, а венц, поляк од кільку поколень! Пшэводнічонцы Зьедночонэй Партыі Дэмократычнэй Александр Добровольскі - то ешчэ тэн поляк, з добрэй міньской родзіны! А найглувнейшом жэчом ест, жэ магазынэр зэ всі Бімбрувка Чэсь Попівніцкі тэж пшызнал се до походзэня польскего!!!

Но то кто гуром на Бялорусі? І по цо та Бялорусь...".

II.

„Слушай, ты, пан паляк, а па мордзе ні хо?! Во я це счяс как урэжу, будзіш знаць, кто тут хазяін, скаціна!

Віцебская дзісантная - раз! У Барысаве і Бабгуйске танкавые - два! В Грамадзе шэф Міша Ткачофф - трі! Замісіцель у нево Алежка Трусафф - чатыры...

І атвалі ат нашай западнай граніцы, сывінія, а то узнаіш-ш, как на Расію рот разіваць!...".

III.

„Дзеньгі какіі-та снова прыдумалі... Раньшэ водка свабодна стаяла і па тры шэсьцьдзесят дзьве... Нашто выбралі таго Гарбачова - ніпанятна... Правільна судзяць яво ў Маскве, так яму і трэба... Што ты гаворыш: „парцію!" - ня парцію судзіць нада, а яво...".

**Алесь Чобат**




**Паўла Кулеш**, сябра Рады БНР у Злучаных Штатах Амерыкі, піша нам: „Рэпартаж газэты „Ніва" з дня 12 ліпеня 1992 г. аб прыездзе ў Польшчу дэлегацыі Рэспублікі Беларусь ёсьць вельмі зьмястоўны і цікавы. Мне незразумелым ёсьць, чаму Паважаная Рэдакцыя «Нівы» назвала спадара Станіслава Шушкевіча **Старшынёй Вярхоўнага Савету** Рэспублікі Беларусь? Слова **Савет** - гэта чужое нам /расейскае/ слова, прыпамінае яно нам, нядобрай памяці, Савецкую Сац. Рэспубліку і т. п. **Старшыня Вярхоўнай Рады** Рэспублікі Беларусь гэта сапраўды найлепшае названьне для так важнае асобы Старшыні спадара Станіслава Шушкевіча і ўсяе Дэлегацыі Рэспублікі Беларусь".

**Ад рэдакцыі:** Мы ў сваіх публікацыях карыстаемся афіцыйнымі беларускімі назвамі ўстаноў у Рэспубліцы Беларусь. Як нам вядома, беларускі парламент не змяніў сваёй назвы і надалей называецца **Вярхоўным Саветам**, а яго галава - **Старшынёю Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь.** Такія назвы прымяняюць усе беларускамоўныя сродкі масавай інфармацыі ў Беларусі, а «Народная газета», выданне, заснаванае парламентам, з'яўляецца органам Вярхоўнага Савета РБ.

* * *

**Яцэк Жоньца** з Лодзі рыхтуе да друку кніжку аб рэлігійным жыцці палякаў. Будзе гэта энцыклапедычны даведнік аб звыш 200 рэлігійных арганізацыях у Польшчы. На думку аўтара, такіх арганізацый дзейнічае ў краіне намнога больш, але не ўсе яны зарэгістраваны ў Бюро па справах веравызнанняў. На просьбу аўтара змяшчаем яго зварот да чытачоў, якія могуць дапамагчы яму ў напісанні кніжкі.

Szanowni Czytelnicy!

Jestem w trakcie opracowywania książki o życiu religijnym Polaków. Moim zdaniem nietolerancja powodowana jest niewiedzą. Moja książka, mam nadzieję, będzie skutecznym popularyzatorem tolerancji religijnej w Polsce.

Bardzo proszę o wszelkie informacje na temat:

A/ Kościoły, Związki wyznaniowe, grupy duchowe niezarejestrowane, działające niezależnie.

B/ Kościoły zarejestrowane jako stowarzyszenia zwykłe lub fundacje.

C/ Lokalne społeczności zarejestrowanych Kościołów i Związków wyznaniowych nierzymskokatolickich.

D/ Organizacje ekumeniczne - ponadkonfesyjne.

E/ Grupy parareligijne, na pograniczu religii.

Będę wdzięczny za każdą informację.

Korespondencje proszę kierować na adres:

**Jacek Rzońca**
**skr. nr 80**
**91-101 Łódź. 52**



# ФОТА–ВІТРЫНА



*Свята беларускай культуры. Беласток – чэрвень 1992 г. Дзіцячы танцавальны калектыў з Беластока.*

**Фота Сяргея Грынявіцкага**

# КАГО ПОМНЮ І ЛЮБЛЮ

**ДАНУТА БІЧЭЛЬ**

1.

Гэты млосны ўпальны тыдзень да таго ж выдаўся глухім. Не пазваніў тэлефон, і слабым голасам Аляксей Карпюк не сказаў: «Данута, здароў...». Падсьвядомая думка: ужо ніколі ён болей так ня скажа - кідае ў жах. Гэтая нямодная цяпер звычка тэлефанаваць сваім ня вельмі дысцыплінаваным сябрам-пісакам дадавала стабільнасьці, спраўляла, што мы ёсьць «адна сям'я» на гэтай зямлі, што ня здарыцца нічога кепскага, бо пра цябе думае твой неахвіцыйны «начальнік»... Нібыта неахвіцыйны, бо пісьменьніцкая праца ў нас засталася па-за працай дзеля хлебу.

Год таму мы ў Гародні перавыбіралі сакратара абласнога адзьдзяленьня СП Беларусі. Сабралася 9 чалавек, і сярод іх «юны партызан» Пётра Лісіцын - пакінуў ён сход, падлічыўшы, што «заваліць» Карпюка няма як, але безь яго, Лісіцына, няма кворуму. Але праз тыдзень Карпюка ўсё ж перавыбралі, нумар у т. Амелькі з тутэйшага абкаму КПСС не прайшоў гладка.

Дарэчы, Лісіцын перад тым памяняў на Менск кватэру, якую гэтай бездары прабіў той самы Карпюк...

«Кіраваць» адзьдзяленьнем СП Карпюк любіў. Як нянька, валаводзіўся з усімі, хто зрыфмаваў хоць радок-другі, вазіў у Менск, сам перадрукоўваў на машынцы, дамаўляўся з рэдакцыямі, каб «без чаргі», цягнуў «за вушы» падлеткаў у гэтую Б.С.Л. /"беларуская савецкая літаратура" - аўт./, але колькасьць «членаў СП БССР» на Гарадзеншчыне рэдка пераскоквала магічную лічбу - 6 у «цэнтары» ды 6 на «правінцыі». Ды й цяпер «6 на 6, сам ён быў... трынаццатым.

Чым болей «членаў» - тым прасьцей імі «кіраваць». Усе ж друкаваліся па чарзе, гэтак рэгуляваўся «літаратурны працэс» - добрыя творы губляліся сярод бяздарных, шэрых. Але Карпюк гэтага не разумеў, таму што сам у чэргах не стаяў...

2.

Карпюк ад прыроды быў героем. У юнацтве, у 1934-м годзе, спрабаваў перайсьці мяжу, каб трапіць у «страну чудес». Злапалі яго польскія «пагранцы», набілі скуру й адаслалі назад, у вёску Страшава - чаму й застаўся жывы, тут яму пашанцавала. Потым пры немцах уцёк з канцлягэру Штутгофф з палону - усё астатняе жыцьцё даказваў прыдуркам, што адтуль можна было ўцячы й ён сапраўды ўцёк, а ня быў выпушчаны немцамі як шпіён. І толькі перад самым ГКЧП й канцом камунізму даказаў-такі праз суд гэта псіхам, тутэйшым і зь менскага «Политического собеседника»... На тым судзе цікава было глядзець, як аўтар паклёпу, нейкі Ледзянёў Пашка, ніяк ня мог зразумець, што час зьмяніўся, што судзяць ужо яго, а не Карпюка...

Нарэшце Карпюк даказаў, што і ён, і бацькі сапраўды належалі да КПЗБ, што нічога на сумленьні ня маюць і г.д. А быў ужо 1991-ы год... Ці сапраўды лепш пазьней, чым ніколі?

Хіба, у вайну героем быць зручней: партызанка, узарваныя эшалоны, налёты на мястэчкі, разьведкі ў Беластоку... Гэткае партызанцкае геройства яму было неабходнае ўсё жыцьцё. Часам складалася ўражаньне, што на пісьменьніцкіх зьездах пры бальшавіках ён так выступаў, каб даказаць самому сабе, што нічога й нікога не баіцца. Тэксты гэтых выступленьняў ён пісаў як аповесьці - перапісваючы, з асалодаю, дапаўняючы дэталямі, нанізваючы новыя факты адзін на другі. Гэтым ён сябе допінгаваў... Гэтыя выступленьні - нешта каляровае ў шэрым жыцьці Б.С.Л., ён усім і сам сабе падабаўся. Дзеля гэтага ён мог пайсьці на любую крайнасьць. Напрыклад, каб пакрытыкаваць абыякавасьць старшыні СП БССР да калегаў - «падначаленых», Карпюк мог сказаць, што вось у такога й такога паэта зубы павыпадалі, а СП ня ўставіць яму новыя... Уяўляеце, як адчуваў сябе «такі й такі», седзячы тут жа на залі?

Менскія кабецкі спрабавалі яго «разгадаць» - і безвынікова. Неяк жонкі «вядучых літаратараў» прачакалі ў гатэлі ў таварystве Васіля Быкава да поўначы, каб пазнаёміцца з Карпюком... Таго ня было, кабецкі пайшлі. «Нічога, - сказаў Карпюк, - чым менш яны пра мяне ведаюць, тым лепш будуць чытаць мае кнігі». У пэўным сэнсе гэта так. Аповесьць «Данута» была на Гарадзеншчыне бэстсэлерам...

3.

Па сваіх геройскіх прамовах на зьездах і пленумах Карпюк і яго калега Быкаў цікавіліся: як, у сутнасьці, гэтае геройства выглядае збоку? Як яно дайшло да сакратара местачковага абкаму? Тады пасылалі мяне «на разьведку»; у іх я была «парашутам»... У гутарцы я «папраўляла» таго сакратара, зьмякчала трошкі, «зрэзвала» вострыя вуглы, каб менеі было ляманту ў той муці абласнога балота...

Гэта калі я была яшчэ маладая, а функцыянеры КПСС яшчэ не азьвярэлі й не адурэлі так, як перад канцом свае партыі. А ў партыі з нашае «тройцы» быў адзін Карпюк...

І быў ён там не да месца.

4.

Гэтыя старыя камунякі з усходу, накшталт Ледзянёва, таму й «фальсыфікавалі» ўсялякія абвінавачаньні ў адрас Карпюка, што той ніяк «не ўпісваўся» ў іхнюю бязьлікавасьць, ён заставаўся «заходнікам»; а гэта значыць, што яны былі ніхто - хто прыехаў з усходу, каб тут «сказку сделать былью» і ператварыць нашы наднёманскія пагоркі ў роўнядзь іхняга камунізму... Карпюк у іх партыю «ня ўлазіў». Камунякі абсалютна слушна, хоць і задужа раздражнёна, усё жыцьцё брызгалі сьлінай, што камуніст зь яго несапраўдны.

Пры Гарбачове, калі «процесс пошёл», Карпюк нечакана й упершыню адчуў падтрымку - БНФ першых двух гадоў існаваньня. У яго абарону пісалі, выступалі на сходах, зьбіралі на вуліцах подпісы, што аўтаматычна ператваралася ў «несанкцыянаваныя» мітынгі... За яго былі кіраўнікі тутэйшых татараў, расейцаў, жыдоў, палякаў - біць яго было ўжо рызыкоўна, каб не нарвацца на абвінавачваньне ў «великодержавном шовинизме». Антыкарпюкоўскія камуністычныя кампаніі канчаліся, а было іх о-го-го-го! - пачынаючы ад вёскі Біскупцы-Ваўкавыскія, дзе Карпюк рабіў пасьля вайны й дзе на яго «пакрыўдзіліся» мясцовыя начальнікі. «Крыўдзіў» ён многа каго...

Пагранічнікі пакрыўдзіліся. Напісаў замалёўку з натуры, як па самой паласе «границы на замке» пасуцца сьвіньні, ходзяць каровы, нясуцца куры. Пакрыўдзіліся танкісты - напісаў, што ў гарнізоне танкі безнадзорныя, птушкі ў люках гнёзды віюць. Жонкі вайскоўцаў - тут увогуле без камэнтараў... Крыўдзіў, невядома чаму, мытнікаў - яго творчасьць, бачыце, хваліла замежная «белоэмигрантская» газэта...

Але вось усур'ёз зласавалі на яго тыя, хто прыехаў сюды з Расеі з высокароднаю мэтаю: пабудаваць камунізм. Ён той уклад у будову ацэньваў наадварот - як паскудства, а ня так, што «подняли наше хозяйство». Ішлі «письма трудящихся», сходы, пленумы, разборкі палётаў; дзяцей выкідалі са школы, жонку з працы...

5.

Ён пісаў зусім ня так, як іншыя. Неяк па-сялянску. Няроўна. Быў ён самавукам і самародкам.

6.

Напісаў раман «Карані», надрукаваў у менскім часопісе «Полымя». Сабраў у Гародні сход пісьменьнікаў - каб абмеркаваць сваю кнігу. Маладыя крытыкі й празаікі пачалі, як заўсёды, казаць, што б яны зьмянілі, каб твор быў яшчэ лепшым і г.д. Пачалі казаць, што вось у герояў мова нейкая цікавая, а вось аўтарская - ня вельмі... Крытыкавалі сюжэт: прадаў герой хату, купіў сыну машыну, і ўсё - а калі б, скажам, на машыну не хапіла грошай?...

Карпюк усіх ціха выслухаў і сказаў прыблізна так: калі б я «ўлічыў» усе вашыя заўвагі, то быў бы гэта не Карпюк, а хто-небудзь іншы... «Мова герояў», - хмыкаў ён, - «то чыя ж гэта мова, ня аўтарская? І ты яшчэ мяне будзеш вучыць, як гаворыць у Мастаўлянах?! Ды мая родная цётка адтуль! І ўвогуле, усе вашыя заўвагі сягоньня я ўжо да-аўно выкарыстаў, і здаў раман у друк асобнай кніжкай. З вашымі папраўкамі...».

7.

Ужо па апэрацыі, у апошнія месяцы жыцьця, ён нібыта шукаў пагаршэньня свайго становішча: то на пусты пленум Б.С.Л. выбярэцца ў Менск, то на нецьвярозы й скандальны зьезд СП СССР, якога ўжо няма, у Маскву, - «каб зь сябрамі апошні раз пабачыц-

*Працяг на стар. 8*

Ад 1 жніўня на Беласточчыне можна ўрэшце глядзець Беларускае тэлебачанне. Гэта аднак - мушу тут расчараваць Сакрата Яновіча - не вынік нашых намаганняў ці націскаў на высокапастаўленых у Менску асоб, уключна са Станіславам Шушкевічам. Беларускае тэлебачанне, ці мы таго дабіваліся б ці не, і так у гэты ж час паявілася б у нашых дамах. Вырашалі тут унутраныя справы Рэспублікі Беларусь. Калі яна сур'ёзна ставіцца да свае суверэннасці, надалей не магло такога быць, каб у якасці першай праграмы найбольш папулярнага сродка масавай інфармацыі функцыянавала тэлебачанне суседняй краіны. Падмаскоўскае Астанкіна было галоўнай тэлестанцыяй для Беларусі, у той час, калі Менска немагчыма было злавіць у шмат якіх месцах рэспублікі /што ўжо тут гаварыць пра Беласточчыну!/.

Цяпер Беларускае тэлебачанне з Астанкінам памянялі месцамі ў перадатчыках - цераз мацнейшыя ідзе Менск. Для Беларусі быў гэта першы крок, каб інфармацыйную службу маладой дзяржавы паставіць з галавы на ногі. А пры нагодзе, скарысталі і мы /за выключэннем тых, каму больш даспадобы глядзець Маскву/. Гэта па-першае.

Па-другое: ужо пасля першага сутыкнення з Беларускім тэлебачаннем заўважаецца нізкі ўзровень як прафесіянальнага warштата яго журналістаў, так і тэхнічнай абслугі, гукаапаратараў, апаратараў камеры і т.п. У Менску, здаецца, не ведаюць асноўнага прынцыпу сучаснай тэлевізіі - на экране ўвесь час павінна нешта адбывацца, вобраз мусіць пастаянна рухацца. Ежы Урбан Польскае тэлебачанне крытыкаваў за «krajobrazy sielskie anielskie», «pola zbożem malowane» і «Tatry porośnięte pierdzieliną jak śnieg białą». Уяўляю, што ён напісаў бы, каб паглядзеў Менск.

Трэцяя справа, якую хацелася б закрануць, гэта беларускасць Беларускага тэлебачання. Найлягчэй

## БЕЛАРУСКАЕ ТЭЛЕБАЧАННЕ ПА-РАСЕЙСКУ

правесці ацэнку, зразумела, па мове, якую чуем з экрана. Праграма нібыта і ўся па-беларуску, але на практыцы, дык беларускую мову чуем толькі ад журналістаў / і то не заўсёды/. Цяжка абвінавачваць рэдакцыйны персанал за тое, што іхнія субяседнікі гавораць па-расейску. Але ўжо тое, што замежныя фільмы паказваюцца з падкладзенымі галасамі расейскіх акцёраў, проста неахайнасць. Тым больш, што не абавязкова ўводзіць беларускі дубляж, хопіць пад гукавую сцежку фільма падлажыць голас добрага дыктара /большасць палякаў, думаю, не ўяўляе сабе інакш вестэрна, як з голасам Яна Сузіна/.

Існуюць такія недарэчнасці, як беларуская калыханка і расейская байка ўвечары для дзетак. І нікога гэта ў вушы не коле, нікому не здаецца ненармальным. Надалей маршыруем па шляху да зліцця двух родных «языкоў»?

Што інакш можна зрабіць, прыклады ёсць нават у самім Беларускім тэлебачанні. У суботу раніцай можна паглядзець мультфільм «Суперкніга» - біблейскія гісторыі для дзяцей. Усё тут прадумана, усё зроблена з галавою - і ўступ, і паясняльныя каментары, і галоўнае, сам фільм на беларускай мове.

Дакладней паўзіраючыся, можна знайсці болей цікавага, добра выкананага. Мне здаецца, што якасць вестак палраўляецца, узрастае іх тэмп. Ну і самая класная, памойму, праграма гэта спорт. На агульным марудным фоне рэзка і станоўча вылучаецца спартыўны каментатар Уладзімір Навіцкі.

Толькі як на гэтыя лепшыя моманты глядзець, ці як на кроплю ў моры, ці як на сімптомы зменаў у Беларускім тэлебачанні?.. Для мяне сёння гэта загадка. На жаль, адчуваецца, што для яго цяперашняга персаналу таксама.

**МІКОЛА ВАЎРАНЮК**

## НАШЫ КАРАНІ

### XLI. З ШЫРОКАГА СВЕТУ

Праваслаўнае грамадства Беларускай дзяржавы /Вялікага княства Літоўскага/ у XIII-XV стагоддзях утрымлівала цесную духоўную лучнасць з іншымі праваслаўнымі краінамі, асабліва з балканскімі народамі і Вялікім княствам Маскоўскім. Нашыя продкі не цураліся блізкіх кантактаў таксама з каталіцкай Заходняй і Паўднёвай Еўропай. Вынікі гэтых сувязяў відаць у даволі багатай перакладной літаратуры таго часу, якая пашыралася на беларускіх і суседніх землях. Духоўныя запатрабаванні нашых продкаў не маглі задаволіць свае, хоць і не такія ўжо і малалікія і нябедныя рэлігійныя літаратурныя творы, і яны сягалі па творчасць іншых краін. Перш за ўсё гэта былі рэлігійныя аповесці, якімі зачытваўся тадышні хрысціянскі свет і якія выдатна паглыблялі ягонае духоўнае жыццё і пашыралі інтэлектуальныя далягляды.

Адна з першых на беларускую мову была перакладзена ў XV стагоддзі «Аповесць пра трох каралёў». Напісаў яе ў XIV стагоддзі нямецкі манах Іаган з Гідэсгейма на лацінскай мове. Неўзабаве яна распаўсюдзілася па ўсёй Еўропе. У ёй шырока апавядаецца евангельская гісторыя пра тое, як тры ўсходнія мудрацы-каралі прыбылі ў Палесціну, пакланіліся Боскаму Дзіцяці, Ісусу Хрысту, і сталі аднымі з першых хрысціянаў на свеце. Разам з вобразным прадстаўленнем аднаго са здарэнняў у жыцці Хрыста на зямлі, гэты твор знаёміў тадышніх чытачоў з незвычайнай разнастайнасцю свету. Аповесць, хоць і крыху ў фантастычным святле, але ўсё ж даволі шматпланава знаёміць з тадышнім жыццём у краінах Далёкага Усходу, з тамашняй прыродай, побытам і звычаямі розных народаў.

Аповесць «Страсці Хрыстовы» прыйшла на Беларусь у XV стагоддзі таксама з Заходняе Еўропы. Як паказвае ўжо сам загаловак, гэты твор прысвечаны апошнім дням зямнога жыцця, трагічнай смерці і Уваскрэсенню Ісуса Хрыста. Аповесць уражвае чытачоў усіх часоў пластычнасцю вобразаў і глыбокім псіхалагізмам. Невядомы аўтар надзвычай пераканаўча паказвае перажыванні бязгрэшнага Хрыста, які ідзе на пакутніцкую смерць, каб адкупіць ёю грахі ўсяго чалавецтва. Моцна кранаюць і перажыванні Маці Божай, на вачах якое памірае страшэннай пакутніцкай смерцю яе Сын, нявыказаны яе боль за пакуты і смерць Сына. Гэтая аповесць узрушвае да глыбіні душы і сёння.

У тым жа XV стагоддзі трапіла на беларускія землі з Захаду «Жыціе Аляксея, чалавека Божага». Перакладзенае на беларускую мову, яно хвалявала некалькі стагоддзяў праваслаўных беларусаў. У ім расказваецца пра заможнага чалавека, які пакінуў дом і сям'ю, каб стаць падзвіжнікам у імя Хрыста. Пасля некалькіх гадоў жыцця на чужыне ён вяртаецца пад выглядам жабрака ў родны дом і жыве нераспазнаны пры сваёй сям'і як вечны пакутнік. Толькі пасля яго смерці родзічы даведваюцца, што гэта быў самы блізкі ім чалавек. Твор гэты вучыць падзвіжніцтву ў штодзённым жыцці, сярод блізкіх і родных, усхваляе ахвярнасць, вернасць і вытрымку ў вялікім подзвігу ў імя Госпадава. На такі праўдзівы жыццёвы гераізм здольныя нямногія, але да яго павінен імкнуцца кожны хрысціянін.

Апрача рэлігійных аповесцяў на беларускую мову перакладаліся з іншых моваў малітвы, казанні, пасланні і іншыя творы духоўнай літаратуры. Неабходна таксама адзначыць, што і беларуская свецкая літаратура, якая нараджалася ў тым часе, як летапісы, хронікі, або перакладалася з іншых моваў як рыцарскія аповесці і раманы, а нават розныя граматы, тастаменты і іншыя ўжытковыя формы пісьменства прасякнуты глыбокай рэлігійнасцю. Гэта пацвярджае факт, што свецкія творы ў значнай меры «выраслі» з рэлігійнай літаратуры.

**МІКОЛА ГАЙДУК**



## САРДЭЧНЫЯ ТАЙНЫ

**Мілае Сэрцайка!** Мая сястра жыве за граніцай і людзям здаецца, што гэта вялікае шчасце. Мае сябры часамі нават гавораць мне: «Добра табе, у цябе ж сястра жыве ў Італіі!» «Ну і што з таго, - думаў я сабе, - мне ад гэтага ні цёпла, ні холадна!» А цяпер, мушу табе, Сэрцайка, прызнацца, калі пабываў я ў сястры, дык мяне ў гэтай гарачыні зусім замарозіла.

Сястра мая выйшла замуж у Італію некалькі гадоў таму назад. Паехала на экскурсію з «Орбісам». У адным з падрымскіх мястэчак яна заблудзілася. Была ў роспачы, але дапамог ёй знайсці сваю групу і аўтобус напатканы паліцэйскі. Каханне з першага погляду закончылася шлюбам, які ўзялі яны праз паўгода ў Варшаве. І так мая сястра апынулася ізноў у Італіі.

Якраз закончыла яна медыцынскую акадэмію і здавалася, што перад ёю цікавая будучыня. Аднак жа жыццё дыктавала свае варункі. Неўзабаве паявілася дзіця, і пакуль што не было мовы аб нейкай прафесійнай працы. Муж сястры працаваў і зарабляў някепска, так што хапала на жыццё і на даволі вялікую кватэру. Мы з маці былі ўпэўнены, што «нашай маленькай» вядзецца добра. Сёлетнім летам я вырашыў наведаць сястру.

Сапраўды, кватэра была прыгожая. Было надта чыста і прасторна. Дзіця дагледжана сястрою. «Шпагецці» пададзена на прыход гаспадара без мінуты спазнення. Яды, асабліва фруктаў - колькі хочаш. Па ўсім відаць было, што ў гэтым доме не жывуць ад зарплаты да зарплаты. А ўсё ж такі было ў гэтым доме сумна. Швагер мой, паабедаўшы, бег па сваіх справах. Сястра аставалася з дзіцём і ізноў чысціла і чысціла ўсё да непрытомнасці. Муж яе любіў чысціню. Праз дзень генеральная ўборка з чышчэннем пліткі ў ваннай і туалеце ды выбіваннем дываноў. Толькі паспее прыбраць - ужо і абед варыць трэба, а тут і дзіця і пакупкі. Як жа тут думаць пра медыцыну?

Але не ўсё гэта яшчэ. Я думаў, што калі вялікае каханне, дык і пашана нейкая, і ласка, і зразуменне. А тут, то кідаецца на яе ледзь не з кулакамі, то перапрашае на каленях. І пры ўсім гэтым мноства /на мой густ/ непатрэбных слоў. Ну, зусім як у італьянскіх фільмах.

Я глядзеў на швагра як на нейкага вар'ята. Нават пагаварыў з сястрою. Вяртайся, кажу, дамоў. Будзеш ізноў чалавекам, а не парабкам. Хоць выспішся раніцай, калі дзіця не абудзіць. А то мусіш ускакваць з ложка раней за яго, хаця не ідзеш на працу. Трэба ж пану каву заварыць! Сам сабе снедання ён не возьме. Прыязджай, кажу, у нас усё будзе выглядаць інакш. Меў я рацыю, ці не? А яна дурніца, кажа мне, што яго кахае...

**Пятро**

**Пятро!** Пэўна, што ў нас будзе ўсё інакш выглядаць. Вось прыйдзе яна да хаты. Будзе адна - ён, праўдападобна, не заменіць цёплую Італію на халаднейшую Польшчу. Так што снедання мужу падаваць не давядзецца, і можна было б параскашавацца ў ложку. Але ж трэба будзе і так устаць /мо і яшчэ раней/, каб сабраць дзіця ў прадшколле, памыць яго, накарміць, самой прыадзецца ды яшчэ паспець на працу /калі знойдзе сёння свабодную пасаду лекара, тым больш пасля доўгага перапынку/.

Ты, Пятро, пэўна, яшчэ не жанаты. Кожная ж жонка - у нейкай ступені парабак сям'і. Так, праўду кажучы, у гэтых справах рэдка калі здараецца раўнапраўе, а нават калі здарыцца, дык часта кепска канчаецца,

Можа ўсё тое, што перажывае твая сястра, гэта і ёсць яе маленькае шчасце. Мінуты шчасця трэба лавіць... Шкада толькі яе адукацыі, але, можа, з часам адукацыю яна выкарыстае.

**СЭРЦАЙКА**

# МЕНСКІЯ ЛІЦЭІСТЫ Ў КАШУБАЎ

Будучы 28-29 сакавіка 1992 года ў Менску на канферэнцыі, прысвечанай беларускай нацыянальнай школе, перадала я дырэктару Беларускага ліцэя Уладзіміру Коласу запрашэнне ягоным вучням /для дзесяці асоб/ прыехаць у Гданьск у тэрміне 14 - 20.06.1992 г. Канцэпцыі наконт таго, як арганізаваць адпачынак, былі розныя: або дзяцей раздзяліць па хатах, або сабраць грошы і пасяліць іх у клубе; разглядалі мы таксама яшчэ некалькі іншых варыянтаў. Хутка дырэктар У. Колас пазваніў, што моладзь можа прыехаць толькі 10 - 17 ліпеня, каб пры нагодзе пабыць і на «Басовішчы». З-за вельмі дарагіх білетаў немагчымым аказалася падарожжа цягнікам. Намякнуў ён пра аўтобус і 30 асоб. Для 10-ці асоб гнаць аўтобус не аплочваецца. З просьбай пазваніць праз тыдзень я развіталася. Сітуацыя рэзка мянялася. Па-першае, тэрмін нам неадпаведны - гэта ўжо канікулы і дзе ты тут каго знойдзеш у Гданьску, калі толькі адзінкі маюць тэлефон. Па-другое, 30 асоб - гэта не 10. Па-трэцяе, у ліпені мы ўжо не будзем мець свайго памяшкання. Раптам паўстала столькі праблем, што найпрасцей было б ад усяго гэтага адмовіцца. Перамовіўшыся з Аняй Іванюк і Міхасём Куптэлем, усёж такі падтрымалі мы гэтую ідэю. Пастанавілі звярнуцца за дапамогай да мясцовых улад. Акрамя некалькіх асоб, большасць прадстаўнікоў улад аказаліся бязраднымі. Некаторыя нават здзіўляліся, што ў Гданьску знайшліся нейкім цудам беларусы. Найбольш нашай справай цікавілася спадарыня Тэрэса Гапска з Аддзела адукацыі Гарадской управы. Яна аказала нам столькі сэрца і заангажавання... Знайшла бясплатны начлег у Гарадскім доме культуры ў Гданьску, правадніка па горадзе, арганізавала рэйс караблём з Гдыні ў Сопат і іншыя мерапрыемствы.

Віцэ-ваявода Юзэф Бажышкоўскі таксама праявіў зацікаўленне да гасцей і аформіў начлегі ў кашубскім ліцэі ў Брусах.

Шкада толькі, што ніхто не даваў нам ніякіх грошай. Усе тлумачыліся іх недахопам, хаця на летнюю акцыю для паланійных дзяцей былі яны ў Міністэрстве адукацыі. Трэба было разлічваць на ахвярнасць спонсараў і свае грошы, якія зарабілі мы, арганізуючы экскурсіі.

Ліцэісты прыехалі 10 ліпеня. Затрымаліся ў пачатковай школе н-р 68 у Гданьску, дзякуючы Вандзе Кужаве родам з Нясвіжа. Спадарыня Ганна Валявэндэр /праваднік/ правяла мянчан па старым горадзе. Наша Іра Гаданчук дасканала арганізавала ім пабыўку ў Гданьску, завезла на пляж, у Гдыню, ну, і на рынак. Добрыя людзі дапамаглі ў харчаванні, даруючы хлеб /пекар Герард Эльбіцкі/, напіткі /суполка «Тымбарк»/, паштэты і пячэнне /суполка «Сонэль»/, масла /Тлушчовае прадпрыемства ў



*Менскія ліцэісты на каралеўскім тракце ў Гданьску.*



*На паўвостраве Гэль.*

...І ПРЫЕХАЛІ

З усіх намаганняў выкрышталізавалася неблагая канцэпцыя - кантакт беларускіх ліцэістаў з кашубскімі і пры нагодзе наведванне надморскіх гарадоў. Дарэчы, у гісторыі ёсць ужо такія традыцыі. Міхал Федароўскі быў жа кашубскага паходжання. І ў Беларусі Алесь Траяноўскі пераклаў кашубскую паэзію на беларускую мову. І мы ўжо не першы раз спатыкаліся з Юзэфам Бажышкоўскім - старшынёй Кашубска-паморскага згуртавання. І прытым дасканала разумеліся, размаўляючы на сваіх мовах.

Гданьску/, сыр /Гандлёвы малачарскі кааператыў/, сасіскі /Гданьскае мясное прадпрыемства/. Дзякуючы суполцы «Капэр» у нядзелю 12 ліпеня праплылі мы з Сопата ў Гэль. Правіянт на цэлы дзень мы атрымалі ад Старамейскіх Дэлікатэсаў у Гданьску.

Пабачыўшы мора і Гданьск, у панядзелак пасля абеду ліцэісты паехалі ў Кашубскі ліцэй у Брусы. Ліцэй гэты існуе адзін год і навучаецца ў ім кашубская мова. На жаль, ва ўсім агромністым будынку не відаць праяваў «кашэбшчыны». Дзякуючы дырэктару Юзэфу Сламінскаму адбылося вогнішча, на якое прыйшло

# БЕЛАСТОЧЧЫНА Ў ЧАС НЯМЕЦКАЙ АКУПАЦЫІ

-III-

Нетыповай на Беласточчыне была нямецкая палітыка ў галіне асветы. У чэрвені 1941 г. усе школы, якія дзейнічалі пры савецкай уладзе - польскія і беларускія - былі ліквідаваны. Камісар беластоцкага павета згадзіўся на дзейнасць пачатковых школ ад верасня 1941 г., але пратрывалі яны толькі да Каляд. Інакш было ў Бельскім павеце. Нямецкі стараста дазволіў там ствараць двухкласныя школы і паабяцаў разглядзець магчымасці павелічэння ліку класаў у наступных гадах. У пачатку 1942 г. на тэрыторыі гэтага павета існавалі 122 школы, у тым ліку 61 польская, 58 беларускіх і 3 двухмоўныя. Парадокс заключаўся ў тым, што апрача гэтага павета легальнае школьніцтва не існавала ў цэлай Беластоцкай акрузе. А ўся таямніца гэтага незвычайнага стаўлення нямецкіх уладаў Бельскага павета да школьніцтва была ў тым, што бельскі войт, вядомы беларускі дзеяч Яраслаў Кастыцэвіч узяў салідны кош з каўбасой, самагонкай, мёдам і падобным смакоцем і гэтым аргументам пераканаў старасту. Нямецкі стараста - як даказаў Ю. Туронак /"Нарыс гісторыі беларускага школьніцтва на Беласточчыне" - даклад з нагоды 30-годдзя БГКТ, Беласток 1986/ - даў сваю «прыватную» згоду вярнуць усе пачатковыя школы, карыстаючыся прынцыпам: тое, што правам не забаронена, ёсць дазволенае. Улады Беластоцкай акругі не стварылі ў гэтай справе ніякай інструкцыі, таму «прыватнай» была згода бельскага старасты і прыватнымі былі школы. Арганізаваліся яны і ўтрымоўваліся бацькамі вучняў. Немцы дазволілі, каб навука ў гэтых школах адбывалася на такой мове, на якой захочуць людзі. Размяшчэнне беларускіх і польскіх школ амаль дакладна пакрывалася з сеткай школ, створанай савецкай уладай. Пры нейтральным становішчы акупантаў беларусы і палякі арганізавалі школы на сваёй роднай мове, і не выклікала гэта амаль ніякіх канфліктаў.

У палове 1943 г. немцы змянілі сваю палітыку таксама ў галіне асветы. Ліквідаваныя былі афіцыйныя польскія школы, асталіся беларускія. Улады Беластоцкай акругі у той час дазволілі ствараць беларускія школы ў Беластоцкім і Сакольскім паветах. Немцы, аднак, не імкнуліся ствараць беларусам добрую асветную сістэму, а толькі выклікаць нейкі шырэйшы канфлікт паміж палякамі і беларусамі, а менавіта канфлікт этнічны, аб якім марыць кожная акупацыйная ўлада. З другога боку, немцы спадзяваліся, што школы будуць выклікаць адмоўныя рэакцыі з боку савецкага падполля, давядуць да рэпрэсіяў і барацьбы з настаўнікамі і бацькамі. Далей мела гэта прывесці да ўстрымання падтрымкі, якую беларускае насельніцтва давала савецкім партызанам.

На шчасце, на Беласточчыне не дайшло да такіх падзеяў, як на Валыні ці Галіччыне, а зацікаўленне савецкага падполля гэтымі школамі было настолькі вялікае, што яшчэ ў час вайны большасць настаўнікаў стала яго супрацоўнікамі.

Нямецкая акупацыя прынесла таксама вялікія змены ў сітуацыі Праваслаўнай Царквы на Беласточчыне. У верасні 1939 г. беластоцкая епархія была пазбаўленая юрысдыкцыі варшаўскай мітраполіі. Пачатак нямецка-савецкай вайны даў беларускай інтэлігенцыі магчымасць працы над пабудовай структур Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы. У жніўні 1941 г. дзеячы камітэтаў звярнуліся да варшаўскага мітрапаліта Дыянісія і нямецкіх уладаў з прашэннем, каб узвесці ў сан епіскапа архімандрыта Філафея /Нарко/, які пачаў арганізацыю беларускага царкоўнага асяроддзя. 9 верасня 1941 г. заснавана была ў Менску Беларуская царкоўная рада, дзякуючы якой двух наступных архімандрытаў беларускай нацыянальнасці пастаўлены былі ў сан епіскапаў - Феафан /Пратасевіч/ і Афанасій /Мартас/. Дало гэта пача-

крыху брускіх ліцэістаў. Кантакты наладзіліся вельмі хутка, хаця не ўсе яны прызнаваліся да «кашэбшчыны» /так як беларусы на Беласточчыне/.

Брусы, старое трохтысячнае мястэчка. Мы хутка паглядзелі цікавыя месцы горада і пазнаёміліся з жыццём кашубаў. З’ездзілі на фабрыку фарфору ў Лубяне. Яе дырэктар Бэрнард Карчэўскі паказаў нам цудоўныя вырабы з кашубскімі ўзорамі. Таксама распавёў пра кашубаў і крануў нявысветленую яшчэ да канца справу кашубскай рэспублікі пасля II сусветнай вайны. Вяртаючыся з Лубяны, заехалі ў кашубскі этнаграфічны скансэн у Вдзыдзах Кішэўскіх. Заснавалі яго ў 1906 годзе Тэадора і Ізыдар Гульгоўскія. У гэтай кашубскай вёсцы самыя цікавыя будынкі гэта драўляны касцёл св. Барбары, пабудаваны каля 1700 года. Цікавая ў ім размалёўка з натуральных фарбаў у народным стылі. Удалося нам нават некалькі раз пазваніць звонам. Знаходзіцца там таксама драўляны вятрак, пабудаваны у 80-тыя гады XIX стагоддзя. Адно, чаго мы там не знайшлі, гэта экспазіцыі народных строяў.

На наступны дзень мы паехалі ў Хойніцы - пагранічны паморскі горад і на Хажыкоўскае возера. Аднак, дождж не дазволіў нам пакупацца. Толькі адзінкі адважыліся ў халоднае і мокрае надвор’е памачыцца яшчэ і ў возеры.

У Брусах мянчане наведалі касцёл з цікавай драўлянай архітэктурай і дом культуры. Вольны час, а было яго сапраўды мала, запаўняўся футболам з мясцовымі ліцэістамі, вогнішчам і дыскатэкай. Наладзіліся першыя нефармальныя знаёмствы не толькі паміж вучнямі, але і паміж настаўнікамі. Хацелася б, каб не была гэта першая і апошняя беларуска-кашубская сустрэча. Спадар Юзэф Сламінскі, дырэктар кашубскага ліцэя, думае аб супрацоўніцтве і чарговых сустрэчах. Сёлета дзякуючы яму мы маглі спакойна на аўтобусе паездзіць па Кашубах і прыехаць на Беласточчыну. Ён зафундаваў нам



*З Лявонам Баршчэўскім на гэльскім пляжы.*

паліва і дазволіў карыстацца памяшканнем сваёй школы. Елі мы смачныя абеды дзякуючы Леакадзі Матушак з Руды – Шлёнскай. Тыдзень мінуў так хутка, што 17 ліпеня зранку цяжкавата было сабрацца. А трэба было заехаць да вечара на «Басовішча» і яшчэ па дарозе наведаць Грудзёндз, дзе сядзеў у турме Браніслаў Тарашкевіч, і «адваяваць» Грунвальд.

### НЕ ЎСІМ АДПАЧЫНАК...

З ліцэістамі прыехала некалькі «важных асоб»: Уладзімір Колас, дырэктар ліцэя, Леанід Баршчэўскі, дэпутат у Вярхоўны Савет РБ. За парадкам увесь час пільна назіраў дырэктар і настаўнікі ліцэя. Спадар дэпутат адпачываў і праяўляў сябе як прыватную асобу: заўзятага спевака, футбаліста і гумарыста.

Паколькі была гэта першая паездка на мора, спадар Уладзімір Колас як кінарэжысёр з аператарам Львом Злобіным выкарыстоўвалі максімальна час для здымкаў. Дадаткова яны сустрэліся з віцэ-ваяводам Юзэфам Бажышкоўскім і дырэктарам Аддзела грамадскіх спраў Ежы Кедроўскім у Ваяводскай управе, з Тэрэсай Гапскай у Гарадской управе. Спаткаліся таксама з дзеячамі Кашубска-паморскага згуртавання і ў рэдакцыі «Памераніі». Давялося і спадару Лявону Баршчэўскаму адзяваць свой афіцыйны гальштук на гэтыя спатканні. Перад ад’ездам дзякуючы Янку Мацкевічу /вазіў нас сваім малым «фіатам»/ завіталі мы да Мацея Канапацкага. Былі і ў братанка Казіміра Сваяка - Эдмунда Стэповіча. Валодзя Колас хацеў зрабіць фільм пра беларусаў у Гданьску і пра кашубаў. Думаю, што нешта з гэтага атрымаецца. Але каб ва ўсім гэтым разабрацца, трэба тут пабыць даўжэй.

### НЕЧАКАНЫЯ ПАРАЎНАННІ

Кожны, спаткаўшыся ўпершыню з «кашэбшчынай», параўноўваў яе з беларушчынай. Многа ў нас супольнага: падобная мова і падобны лёс, які прывёў нас амаль не да канца існавання. Розніца толькі ў тым, што кашубы лічаць сябе толькі этнічнай групай, якая ўспрымала ўплывы польскія і нямецкія. У беларусаў ёсць свая дзяржава. Але супрацоўніцтва патрэбнае адным і другім. На першы раз удалося адным і другім пераканацца ва ўзаемным існаванні - а гэта ўжо вельмі многа ў развіцці свядомасці.

Прыязджайце яшчэ да нас!

**ЛЕНА ГЛАГОЎСКАЯ**



*Грунвальд. Пасля „перамогі".*

---

так структурам Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы, узнікненне якой было афіцыйна аб’яўлена 30 жніўня 1942 г. Царква гэта, зразумела, не была прызнана маскоўскім патрыярхатам. Паўстала яна перад усім дзякуючы прысутнасці немцаў, што ставіла яе ў рад ворагаў савецкага падполля. Таксама з боку палякаў беларуская царква выклікала найгоршыя рэакцыі. Крыжовую дарогу прайшлі тыя святары і царкоўныя дзеячы, якія марылі, каб з Богам размаўляць на роднай мове. Валасы дыбам становяцца на галаве, калі чытаеш Касяка I. /"З гісторыі Праваслаўнай Царквы беларускага народу"/ і даведваешся, што сталася з тымі святарамі, якія дасталіся ў рукі акоўцаў або савецкіх партызанаў.

Беласточчына, якая не знаходзілася ў межах Беларускай Генеральнай Акругі, фармальна не прыналежала да БАПЦ, аднак епіскап беластоцка-гродзенскі Венядзікт юрыдычна падпарадкаваны быў мітрапаліту менскаму Панцеляймону і браў удзел у працы Сабора Беларускіх Епіскапаў.

У снежні 1941 г. епіскап Венядзікт, які пастаянна прабываў у Гародні, прыбыў упершыню пасля чэрвеня 1941 г. у Беласток. Ад імя свецкіх уладаў горада вітаў уладыку старшыня Беларускага нацыянальнага камітэта Уладзіслаў Тамашчык. Прыпомніў ён, што калі польскі ўрад праводзіў паланізацыю праваслаўя, некаторыя святары пайшлі на паслугі гэтай палітыкі. «Вялікую крыўду, якую зрабілі беларусам, - прадаўжаў Тамашчык, - стараюцца яны цяпер направіць службай гэтаму народу”. Уладыка Венядзікт заявіў, што галоўнай мэтай сваёй душпастырскай працы лічыць увядзенне роднай мовы ў царкоўнае жыццё. Гімн у гонар епіскапа, які заўсёды выконвалі на расейскай мове, хор адспяваў па-грэцку.

У першых двух гадах акупацыі ўся дакументацыя ствкаралася на польскай мове. Беларуская прэса пісала, што гэта вынік зняволення і паніжэння духоўнікаў, вынесенага з міжваеннага перыяду. Праўдападобна, з палітычных прычын нязручна было пісаць на расейскай мове, а на беларускай –з прычыны паўсюднага няведання яе яго літаратурнай формы

Немцы імкнуліся накіраваць Царкву на барацьбу з камуністычнай ідэалогіяй. На Беласточчыне не ўдалося, аднак, арганізаваць на базе праваслаўя рух, заангажаваны ў нейкую палітычную справу. Не было ніякіх інструкцыяў у гэтай справе ад іерархаў, таму большасць святароў спакойна рабіла тое, што было іх абавязкам - хрысцілі, вянчалі, хавалі памерлых. Адзінкі памагалі польскаму ці савецкаму падполлю і яны найчасцей траплялі ў канцлагеры. Больш святароў ангажавалася ў працу беларускіх камітэтаў. Прабавалі яны гаварыць прапаведзі на беларускай мове, пераконваць вернікаў да беларускай справы. Большасць не хацела слухаць ужо пра ніякую палітыку, і так як насельніцтва, чакала наступных зменаў.

Нямецкая акупацыя ў сапраўднасці пачалася пройгрышам беларускай справы. Тыя, якія змагаліся за нацыянальныя інтарэсы, стваралі беларускія асветныя, культурныя ці гаспадарчыя ўстановы, гаварылі прапаведзі на роднай мове, атрымалі шыльду «нацыяналістаў», «калабарантаў» і «здраднікаў». Пару месяцаў пасля вайны кожны, хто называў сябе беларусам, быў так называны.

Акупацыя пераканала яшчэ раз большасць насельніцтва, што, каб перажыць, найлепш нічога не рабіць, нічога не бачыць, нічога не ведаць. Тыя, якія звязаліся з савецкім падполлем, засталіся пераможцамі, але вайна для іх не закончылася ў ліпені 1944 г.

**ЯЎГЕН МІРАНОВІЧ**

# КАГО ПОМНЮ І ЛЮБЛЮ

*Працяг са стар. 4*

ца»... А ўсё таму, што больш ня мог сядзець за машынкай, а без працы жыцьцё траціла сэнс.

Памёр ён з крыўдай на менскае выдавецтва, якое праз крызыс /?/ ня выдала яго апошні твор «Белая дама», а ён хацеў бы яшчэ зрабіць праўкі, на ўжо надрукаваным тэксьце. Гэты вельмі адметны твор пабудаваны на старой легеньдзе пра вайну, вялікае каханьне й сьмерць...

І з усіх крыўдаў была ў яго вялікая крыўда, пра якую нікому не казаў - крыўда на Беласточчыну, дзе яго быццам не заўважалі, як усіх на Радзіме. У 1988-м годзе паехаў туды на запрашэньне БГКТ - яшчэ ў «народную Польшчу». Было ў Аляксея Нічыпаравіча шмат спатканьняў зь людзьмі на маленькай сваёй Радзіме. У Гарадку ён забег да сябрука з маладосьці й толькі расстроіў таго: так доўга ня бачыліся, а тут Алёша заскочыў на хвіліну, нават не пачаставаўся.

У Мастаўлянах, на радзіме Кастуся Каліноўскага, мы наведалі цьвінтар каля царкоўкі - там пахаваныя продкі Кастуся й Карпюковыя дзяды. У Валілах ён паразмаўляў зь Лёнікам Тарасэвічам - атрымалася, што яны зь Лёнікавым бацькам адзін час працавалі разам на чыгунцы, але да таго бацькі ніяк не даходзіла, што гэты Карпюк і ёсьць той самы Алёша зь іх маладосьці. У Страшаве мы спыніліся каля вясковых людзей майго ўзросту. Карпюк распытваў пра сваіх рочнікаў - выходзіла так, што ўсе паўміралі. Паехалі на хутар - хата, дзе нарадзіўся Аляксей Нічыпаравіч, захавалася. Жывуць там людзі, вялікі двор агароджаны. Гаспадарчыя забудовы - гумно ды хлеў. На дзьвярох замок. Карпюк зазірнуў у вакно, абыйшоў кругом хаты, вырваў васілёк і прыкалоў яго на пінжак. Ніколі ня бачыла яго такім разгубленым, нават пасьля гэтай апошняй апэрацыі на страўніку. Трымацца то ён умеў...

## 8.

Зімою 1990 году беластаччане арганізаваліся ў БДА - у нас з Карпюком зьявілася магчымасьць, як кажуць, зьезьдзіць да іх «на халяву». Прыехалі ўжо да «новае Польшчы». Ніхто не запрашаў, а таму ніхто не сустракаў, грошай нам не памянялі, таму доўга ўгаворвалі таксіста падвезьці за савецкія рублі. Карпюку захацелася паехаць па старым маршруце - між іншых, да партыйнай пані Маранды; і атрымалася цікава, бо мы ўбачылі разгубленую й даволі абыякавую ўжо да свету й сябе даму, такую, як нашыя пэнсыйныя сакратаркі па ідыялёгіі...

У тую паездку Карпюк быў, нарэшце, вольны. Сам наведаў Гарадок і Страшава, убачыўся са знаёмымі. Апошні раз.

## 9.

Ужо перад сьмерцьцю ён папрасіў дзяцей і жонку, каб памаглі яму сесьці ў ложку, потым сказаў, што адсюль трэба ехаць...

- Куды?!

- У Англію. У Лондан. Тут дрэнна...

## 10.

Неяк у дарозе, - я ўспомніла, - пачынаў ён адно й тое ж. «Даўно ў Лондане ня быў. Хочацца на туман паглядзець...». Мы маўчым. Зноў тое ж - мы маўчым. «Слухайце, вы, - кажа Карпюк, - а чаму гэта вы не пытаеце, калі я быў у Лондане?!». А мы ў сьмех: «Ды ня быў ты там! Усе ж ведаюць...». А тут было дрэнна, нудна, пагана...

## 11.

Пра яго «непрызнаньне» на беластоцкай Радзіме. Калі пра яго там не пісалі, не друкавалі па-беларуску й не перакладалі па-польску, гэта яшчэ ня значыць нічога пра яго папулярнасьць ці непапулярнасьць. Былі там яго чытачы. Мне адзін малады чалавек прызнаўся, што ад «Салідарнасьці» яго ўтрымалі менавіта творы Карпюка. І тут ані пляўка ў бок «Салідарнасьці», яна таксама была дзесяцімільённай спачатку й на мноства партыяў раскалолася потым...

Карпюк добра арыентаваўся ў беларуска-польскіх, традыцыйна даволі паскудных адносінах. Не баяўся брыдкай гісторыі, нікому не падпяваў. Такое ўражаньне, што яго абыходзілі, як міну замаруджанага дзеяньня... Чагосьці ён не разумеў, ня ведаў, ня верыў - адсюль яго непаразуменьні з другім мудрым беластаччанінам Сакратам Яновічам. А ў чымсьці яны былі падобныя: думалі, камбінавалі й рабілі тое ж; скажам - Саюз Палякаў на Беларусі. Дарэчы, хоць і патрэбная, а таксама рызыкоўная апэрацыя... І Карпюк, і Яновіч умелі ня расьпінацца «за дружбу», але вышукваць з абодвух бакоў стары гной, стары боль, старую гразь - каб ачысьціць рану й жыць далей. Шкада, пасьлядоўнікаў у іх мала...

## 12.

Сакрат Яновіч - больш сканцэнтраваны ў слове. Аляксей Карпюк надрукаваў шмат прозы няроўнай...

Але Карпюк быў, між іншым, кавалерам Крыжа «Віртуці Мілітары» й савецкага баявога ордэну Чырвонага Сьцягу. Проста так гэтага не давалі. Ці меў Карпюк талент, ці не - адкажа час. Ці меў ён сумленьне - адказ ведаюць беларусы й палякі па абодвух бакох мяжы.

## 13.

Калі я прыехала ў 1957-м годзе ў Гародню вучыцца, я ведала, што пісьменьнікаў тут двох - Міхась Васілёк і Аляксей Карпюк.

Васіль Быкаў яшчэ пачынаў, але таксама быў тут, рабіў у «Гродненской правде», друкаваў там вайсковую аповесьць - ды ён жа быў «усходнік», наша настаўніца літаратуры ў Лідзе, у пэдвучылішчы, апавядала пра «сваіх». Карпюк як раз надрукаваў тады ў часопісе першую сваю аповесьць «У адным інстытуце» /1953 год/. Гэты твор чыталі на занятках па літаратуры пад камэнтарый настаўніцы, якая ўсіх прататыпаў ведала жыўцом, бо скончыла той жа інстытут, што й Карпюк, а яе муж увогуле быў яго аднакурсьнікам - на факультэце фізыкі.

У нашым пэдвучылішчы былі адны дзяўчаты, аніводнага хлопца зь першага па чацьвёрты курс. Нам займала дыханьне, калі слухалі, што тут, на гэтай зямлі, жывуць такія вось людзі, пра якіх свой жа хлопец піша такія файныя кніжкі.

## 14.

У Гародні мы адразу ж усім курсам інстытуту пасябравалі з Карпюком. Запрасілі яго на сустрэчу, і ён пакінуў нам пачытаць рукапіс свае аповесьці - тады была другая назва, але мы чыталі «Дануту»...

Выступаючы перад чытачамі, Карпюк ня раз гаварыў, як ён, надрукаваўшы першую аповесьць, прыехаў са сваіх Біскупцаў-Ваўкавыскіх у Гародню, каб паглядзець, ах, як тут усё зьмянілася!... А тут было ўсё тое ж, да таго ж ад «піўнога пятага вуглу» адзьдзяліўся адзін «прататып» і спытаў: - Ну, і што ты там пра мяне панапісваў?!...

Гналі Карпюка з прычыны слабых ног нядоўга: пярэдні за нешта зачапіўся й ляснуўся. Але сьвет пасьля гэтага не здаваўся яму «абноўленым». «Так праходзіць мірская слава...».

А я ўспамінаю, як мы ўсе паехалі да Белавежы, разам зь Геніюшамі, Ларысай Антонаўнай ды Іванам Пятровічам. У загарадцы стаялі зубры. Даволі далёка. Тады Карпюк пералез праз загарадку й пайшоў да іх. Адзін зубр піхаўся рагамі ў дрэва, другі ўвогуле не зьвяртаў на чалавека ўвагі... Зьвер падпусьціў Карпюка зусім блізка, потым рэзка абярнуўся і ... кінуўся на нашага празаіка. Той - бягом. Зубр - за ім. Карпюк адным духам пераляцеў праз плот, сьледам зубр ударыў у загарадку рагамі. Зямля здрыганулася...

## 15.

Наш курс запоем чытаў рукапіс Карпюка - нам тады ўсё падабалася. І я вырашыла паказаць яму свае вершы. Адзін зь іх, дарэчы, ляжаў у менскім «ЛіМе», потым яго надрукавалі. Карпюк адразу перазнаёміў мяне з усімі, каго ён паважаў. Была то мясцовая інтэлігэнцыя, скажам, славуты гарадзенскі доктар Мартынчык... Калі па летніх канікулах прыносіла яму свае творы, звычайна казаў: «Усё пра ягадкі...». Але зьбіраў усё гэта, потым надрукаваў і завёз да выдавецтва. Так выйшаў мой першы зборнік «Дзявочае сэрца» /1961 год/.

Аднаго разу Карпюк мне сказаў: «Ну што ты сядзіш у сваім інтэрнаце? Схадзіла б лепш у дзіцячы дом, там дзяўчынка сумуе, якая піша вершы. Схадзі й запрасі да сябе»... Так я пазнаёмілася з Вольгай Іпатавай. Потым, калі яна вырасла й мела клопаты з тутэйшым народам, мы ўтрох, - Карпюк, Быкаў і я, - знайшлі яе ў менскім гатэлі й угаварылі вярнуцца назад, у Гародню. Працавала яна тут на тэлебачаньні, ад самага яго пачатку, асялілася, выдала першы зборнік вершаў, і магла б тут застацца...

Пераехаць у Менск Карпюк ёй не дапамагаў - гэта рабіў ужо Быкаў. Васіль не разумеў, пэўна, што Карпюк усім сваім жыцьцём адраджаў Гародню на Нёмане, вунікальны столец Вялікага Княства Літоўскага, сталіцу Заходняе Беларусі. Калі б Васіль гэта зразумеў, Гародні б ён не пакінуў... Карпюк жа пра тых, хіба што па-за Быкавым, хто ехаў адсюль, казаў коратка й ясна: «Туды ім і дарога». Як адразаў ад пупавіны, навечна...

Дзесьці ў 1961-м завёз ён наш курс на машыне да Зэльвы, да Геніюшаў, усіх перазнаёміў. А сам праз гэта застаўся вінаватым. Мы з Ларысай Антонаўнай пасябравалі - пачала я езьдзіць туды аўтобусам. У Карпюка ў самога хапала «цёмных плямаў» за вайну - вэтэраны з усходу адкопвалі іх пасьля кожнага новага твору. Цікава, што мастацкую прозу яны чыталі як ... дакументальную! А Карпюк - зноў цікава! - гэтаму не супярэчыў: адстойваў пункт за пунктам - «праўда жыцьця!». Паляміка была зацятая, прынцыповая, да крыві...

Дык вось. Жыцьцёвы подзьвіг Ларысы Геніюш Карпюк не разумеў - як ні круці, у вайну яны стаялі па розных баках фронту. І яна рэгулярна пачынала яго раздражняць. А я таксама была на яе баку з а ў с ё д ы - і часта запальна й не зусім аб'ектыўна заступалася за яе...

Мы крыўдзілі адзін аднаго часта й балюча. Памятаю, калі Карпюк зварганіў нейкі ліст ад імя адзьдзяленьня й падпісаў яго за мяне таксама... Калі я абурылася, ён не зразумеў: «Мы ж сябры, значыць, і думаем аднолькава, то чаму ж за цябе я не магу вырашыць?!»... Тады я сказала, што ёсьць сябры, а ёсьць сябры па месцы жыхарства.

Мы неяк імгненна пачалі ператварацца ў савецкіх людзей. Усё, што нам хтосьці адзін, просячы да надрыву, «выбіваў», прымалі як належнае, а то й без падзякі, з плябейскім хамствам.. Карпюк, бачыце, служыў за заробак - то мы яго абралі сакратаром адзьдзяленьня СП БССР.

## 16.

Адзьдзяленьне СП БССР у Гародні было патрэбнае таксама Карпюку. Мы яго стварылі ў 1964 годзе, прыняўшы, - ажно па «горкаўскаму» Статуту! - «кандыдата» Міхася Дуброўскага. Ён стаў патрэбным «чацьвертым»... А потым пайшло - Пяткевіч, Іпатава, Голуб, Шутэнка, Івэрс, Дукса, Шаўчонак, Цяжкі, Руцкая, Бутрамееў, Жамойцін, Якімовіч, Кудлачоў, Жук Ігар. І ўсе яны былі Карпюку патрэбныя... Ужо перад самым канцом дамовіўся ён у мясцовай артэлі «фонд культуры», каб выдалі зборнічак 16-цігадовага Толіка Брусэвіча...

У 70-я гады адзьдзяленьне ў Карпюка забралі й аддалі Быкаву - таму нянькаваць усіх ня было часу. Праўда, нянькаўся й Быкаў - куды ты дзенешся... Але Васіль ужо вырас з нашае правінцыі, зь мястэчка абласнога масштабу - і ў 78-м годзе Карпюк зноў вярнуўся на свой «царскі» трон.

## 17.

Пасыяй Карпюка былі паездкі. За гэта яму толькі можна падзякаваць. Працавала я настала ў школе, гадавала дзяцей, ня мела аўтамабіля, а значыць, і магчымасьці некуды выбрацца ў сьвет. Сьвіслач, Якушоўка, Варняны, Гальшаны, Сьвіцязь, Кушляны... Не пабачыўшы, не пабыўшы там, ці можна зразумець гэты Край, сваю зямлю?

Карпюк прыставаў да нас, выцягваў з быту, вывозіў зь месца, знаёміў зь віленчукамі й ковенцамі, а ў яго й там былі кругом сяброўствы з даўніх часоў. Ён шчыра хацеў сябраваць з суседзямі, лічыў гэта неабходным ня толькі з пункту гледжаньня літаратуры. Цёмным месцам у ягоным жыцьці была для мяне Масква, дзе яго, правінцыяла ды «инородца», друкавалі ахвотна й рэгулярна, практычна паралельна з выданьнямі на Беларусі. Там ён вучыўся на сцэнарных курсах, між іншым, разам з Васілём Аксёнавым, будучым эмігрантам і аўтарам рамана «Остров Крым». Не разумела я, чаго яны з Быкавым усё езьдзяць і езьдзяць у тую Маскву - сама трапляла туды рэдка й нічога, апроч хамства, ад тае «столицы СССР» ня бачыла.

З паездкамі, - такое жыцьцё! - заўжды вяжуцца жанчыны й выпіўка. Пра яго адносіны з жанчынамі ня ведаю практычна нічога. У нашай гарадзенскай кампаніі я была «свойскім хлопцам», сябрам па пяру... Але ў паездках Карпюк з Быкавым мяне аберагалі й баранілі ад розных нягодаў - і нават ад уласных жонак.

На гэтых нарадах, пленумах, сустрэчах і таму падобных «зьбюрках» кармілі й паілі чорт адзін ведае чыім коштам. У адной з аповесьцей Карпюк, - шляхцюк! - узяў ды напісаў: маўляў, у нашым Страшаве пілі адно шампанскае, і апошнім чалавекам лічыўся той, хто пераходзіў на самагонку... І вось усё жыцьцё наш клясык трымаў «страшаўскую марку» і сапраўды піў адно шампанскае. Калі сьвяточную вячэру замаўляў ён сам, то й шампанскае былі змушаны таксама піць усе. Так было на 100-годзьдзе Янкі Купалы ў Гародні. Ня любіў тых, хто выпівае, не ўспрымаў іх зусім. А калі ў 70-я гады яго выгналі з дырэктарскага крэсла ў падарожным бюро «Інтурыст» падчас нейкай чарговай «разборкі», зь яго любімай КПСС, то ён нагбом выпіў бутэльку нейкага таннага віна. Бяз закусі. Апавядаў пра гэта, калі ў партыі яго аднавілі...

Адносіны да тых, хто бярэ чарку, зьмяніў толькі калі Бог паслаў яму двух удалых зяцёў. Напівацца то яны не напіваліся, але на сьвята й гэтак далей бралі.

Любімай ежай Карпюка былі кіслая капуста, аўсяны кісель і зацірка. Зацірки ён паеў за дзень да сьмерці...

## 18.

Карпюк вельмі любіў розныя літаратурныя сустрэчы, любіў выступаць. Зубастыя маладыя аўдыторыі яго не палохалі й не раздражнялі. Неяк у Шчучыне сабралі ў кінатэатры дзяцей зь пяці ці шасьці школаў - крык, гам, шум! Карпюк іх супакоіў некім анэкдотам, потым давёў успамінамі да такой цішыні, што мне ўдалося нават прачытаць вершы.

Аднаго разу ў Гародні запрасілі нас на ... дыскатэку! Калі зайшлі туды, - а Карпюк толькі самаўпэўнена пасьміхаўся! - трапілі ў нейкае пекла, цемру, гул, пражэктары, алкагольныя пары... Нарэшце музыка змоўкла й нас абкружыла моладзь ува сэксуальна ўзбуджаным становішчы. Карпюк са сваёй літаратурай ды ўспамінамі стараўся, як мог, але першы раз у яго «не атрымалася»...

Усю дарогу дамоў ён маўчаў і быў вельмі сумны ад свае няўдачы. А потым я паказала яму на адным з дамоў нэонавую рэкламу «Салон мебели», дзе літара «м» патухла. Гэта яго, нарэшце, разьвесяліла. Сьмяяліся да свайго пад'езду...

Найбольшы посьпех меў Карпюк у настаўніцкай аўдыторыі. Там былі не маналёгі, а размовы, успаміны й яго, і яго чытачоў; яго папраўлялі, зь ім спрачаліся... Ён добра ведаў гэты край, знаў мноства людзей аж да маленькіх вёсак, якіх-небудзь Грынак, ведаў дзяцей сваіх партызанаў і франтавікоў, а потым дзяцей іх дзяцей. Гэты край ён увогуле разглядаў як адну вялікую вёску, дзе ўсе ўсіх ведаюць, лічыў гэта, так сказаць, абсалютна натуральным.

## 19.

Суадносіны Карпюка зь яго КПСС былі досьць дзіўнымі. Ставілі новага сакратара - і Карпюк адразу йшоў да яго на знаёмства, выкладаў праблемы, ідэі, просьбы нейкія...

Той слухаў, ківаў, згаджаўся - Карпюк прыходзіў шчасьлівы: «О! Нарэшце нармальнага чалавека паставілі. Не-е, гэта ня той гад, як папярэдні...». А па нейкім часе аказвалася, натуральна, што новы гад яшчэ з большым жалам... Да Карпюка не даходзіла.

Самы анэкдот быў пасьля паездкі яго на Беласточчыну. Зайшоў Карпюк да «першага» й давай падводзіць пад яго марксісцкую базу: вось там беларусы яшчэ ёсьць, і газэта ў іх ёсьць, і тое ёсьць, і гэта... Сакратар ківае. Карпюк далей: вось і каб тут хоць тое ж самае, мы тут усё ж беларусы на Беларусі... Сакратар ківаў-ківаў, а потым ляснуў кулаком у стол і папулярна растлумачыў:

- ... вашу мать!!! Здесь была, есть и будет Россия, понятно?!

## 20.

Калі ён вярнуўся з Масквы па двух гадох літаратурнага інстытуту, то зьдзівіў мяне страшна:

- Ну, - кажа, - мяне там навучылі! На палову Талстога...

Калі стаў дырэктарам «Інтурысту», заганарыўся, абсталяваў шыкоўны кабінэт; ах, «такія людзі» да яго заходзілі - ды ўсё з Парыжа!... І пагаварыць тады ён любіў прыблізна так: вось ты, Данута, ня можаш быць дырэктарам «Інтурысту», а я магу... Вёскай ад яго несла, як ад другіх гарэлкай, усё жыцьцё.

Калі стаў дырэктарам музэю «рэлігіі й атэізму», выклікаў мяне і «парадаваў»: ты ведаеш, ня магу ўзяць цябе на працу - хопіць нам на музэй, ведаеш, аднаго пісьменьніка...

У гэтым жа музэі Карпюк «правярнуў» геніяльную камбінацыю. Як вядома, на музэй далі грошы - палову на рэлігію, а палову на атэізм. Плянавая гаспадарка... За «рэлігійныя» грошы Карпюк і зрабіў музей - фактычна гэта музэй беларускай гісторыі й мастацтва. А ўсе «атэістычныя» грошы пан дырэктар сьвядома ўбухаў у ... адпрацаваўшы сваё савецкі касьмічны спадарожнік сэрыі «Космас»! Паляжаў-паляжаў той спадарожнік, зыржавеў, потым яго падмалявалі й ... паставілі ў другім канцы Гародні - насупраць гатэлю «Беларусь» і амаль што насупраць кватэры Карпюка. Чаго ён там стаіць, ніхто ўжо ня памятае, але ўсім падабаецца, а за падабенства формы яго ласкава клічуць «кавамолка». Так у Гародні загінуў атэізм.

Знаходкай Карпюка на дырэктарскай пасадзе быў Валодзя Кіслы, тады выпускнік... геаграфічнага факультэту БДУ. Карпюк прыняў яго на работу - і цяпер гэта цудоўны рэстаўратар, мастак, гісторык. Зброя, абразы, кнігі - усё ўмее. Пэўны лонданскі сьвятар аж аблізваўся, ходзячы кругом скарынінскай «Библии» й ня ведаючы, што гэта Валодзіна «падробка». «Прычыніўся» Кіслы й да падарунку Яну Павалу II, і шмат да чаго яшчэ. У Польшчы яго ведаюць як чалавека, які знайшоў магілу Станіслава Аўгуста Панятоўскага. А пачалося ўсё з дырэктарства Карпюка.

## 21.

Чалавек праяўляецца ў жыцьці. Чалавек праяўляецца ў сьмерці.

Карпюк аказаўся чалавекам мужным. Ад верасьня мінулага году ў яго прападалі сілы. Хадзіў з палачкай. Заходзіў у газэтны кіёск. Адмерваў кавалак вуліцы. Размаўляў са знаёмымі. «Ты ж ведаеш, якая ў мяне хвароба...».

Я прыдумала прычыну, каб узяць у яго інтэрвю, але батарэйкі селі - запіс вельмі слабы. Прыдумала выставу ў сваім музэі «Васіль Быкаў і Аляксей Карпюк», каб Аляксей Нічыпаравіч сам выбраў для музэя штосьці са сваіх рэчаў. Ён сказаў: «Ну хто табе сёньня падаруе добры бамбукавы кій, калі не я!». Між іншым, такі ж кій падараваў ён калісьці Валі Казімерчык, жонцы Віктара Швэда, калі ў 1988-м годзе яна вазіла нас па Беласточчыне. Аказалася, што Валя з тых мясьцінаў, адкуль бабуля Карпюка, і што іх частавалі грушкамі з аднае грушы - толькі ў розны час...

Ён некалькі разоў запрашаў мяне дахаты, выцягваў нейкія новыя дробязі, лісты - разьбіраць ужо ня меў сілы...

Апошні раз сабраліся 1 мая 1992-га году, калі была Вера Рыч з Англіі. Былі ў Карпюка я, Аляксей Пяткевіч, Жук, Чобат. Пасядзелі, пагаварылі, - Карпюк троху па-ангельску, - выпілі чарку. Пасьля таго вечара ўжо толькі па тэлефону...

## 22.

У труне ён ляжаў з прышпіленымі да гарнітуру ордэнскімі планкамі й бел-чырвона-белым значком.

Сягоньня, - канчаю пісаць 27 ліпеня, - на „сьвяце незалежнасьці" ў Гародні ня было нічога беларускага, апроч сьцягоў, сьцяжкоў і сьцяжочкаў. Паўсюль савецкая музыка, савецкая вайсковая форма, савецкія размовы, савецкія чэргі, савецкія морды, морды, морды...

І ні-іхто не заўважае, як гэта недарэчна...

А потым раптам рынуў дождж і разагнаў усё гэта...!

- Ну, салют, рабяты! - як казаў у такіх выпадках Аляксей Карпюк.

28.07.92 Гародня

*/Тэкст даецца ў пісоўні аўтаркі/*

Зорка
СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ

# ЗАЯЦ

Кожны, мабыць, ведае: у гульні не абысціся без лічылкі. А складзена лічылак шмат. Кароценькіх і доўгіх, смяшлівых і нязвыклых. Я таксама ведаю некалькі лічылак. Асабліва мне спадабалася вось гэтая:

- Заяц, заяц,
Дзе ты быў?
- А я ў лесе
Рабіў,
Там лыкі драў.
- А куды іх клаў?
- Пад старую калоду.
- Выйдзі вон з карагоду!

Пагадзіся, дружа: добрая лічылка. Але ты, напэўна, не чуў пра лыкі. Гэта - лазовая кара, з якой нашы дзяды і прадзеды плялі сабе лапці. Даўней абутак быў вельмі дарагі і не кожны мог прыдбаць сабе чаравікі ці боты. А найлепшы майстра драць кару - заяц. Нездарма ў яго пярэднія два зубы такія вялікія і вострыя. Імі даўгавухі ў адзін міг сцярэбіць і морквіну, і качан капусты. Але дзе ён возьме іх снежнаю, сцюдзёнаю зімою, калі нават сухою травінкаю цяжка разжыцца? Вось і вымушаны заяц уначы скакаць да вёскі, каб падмацавацца салодкаю карою маладзенькіх яблынь. Ды не заўсёды шанцуе небараку. Добры гаспадар абвязвае дрэўцы калючымі яловымі лапкамі, трымае ў цёплай будзе злога сабаку...

Незайздроснае зайцава жыццё. Шмат у яго ворагаў. І воўк, і ліса, і, вядома ж, паляўнічыя. А паратунак адзін - заднія ногі. Дзякуючы ім, доўгім і дужым, заяц уцякае ад бяды з хуткасцю аўтамабіля. І не проста ўцякае, а робіць хітрыя петлі, каб заблытаць сваіх здаганятых.

Асабліва цяжка даводзіцца маленькім зайчанятам. Першыя з іх з'яўляюцца на свет у сакавіку. Адразу ў цёплым футры, з расплюшчанымі вачамі. Зайчыха пакорміць іх удосталь малачком і пакідае адных. Зайчаняты таксама не сядзяць на месцы, хутка разбягаюцца. Потым надоўга затойваюцца сярод кустоў і купін. Зусім безабаронныя, нават перад нахабнымі варонамі і сарокамі. А вось ад зямных драпежнікаў звяркоў на першым часе ратуе тое, што іх слядкі не маюць паху. Прабяжыць паблізу ліса і не пачуе лёгкую спажыву. Затое кожная маці-зайчыха, натрапіўшы на шарачка, абавязкова пакорміць яго. Міне два тыдні і ў малога вырастуць зубы. Тады ён пяройдзе на траву-мураву, якой увесну і летам багата.

На Беларусі, дарэчы, не ўсе зайцы падобныя. Ёсць зайцы-русакі і ёсць зайцы-белякі. Белякі пераважна жывуць у лесе, а русака можна ўбачыць і ў полі, і на лузе, наведваецца ён, як я ўжо казаў, і ў сады.

На заканчэнне навучу цябе, дружа, гульні цікавай. Як ты думаеш, як

*Працяг на стар. 10*

# ПРАЧЫСТАЯ , СПАЖА (УСПЕННЕ БОЖАЙ МАЦІ)

Дзень смерці Божае Маці і ўзняцце Яе на неба. Свята асабліва шануецца ў нашым краі. У гонар гэтага свята на Беларусі асвечаны шматлікія храмы (напрыклад, Успенскі сабор у Жыровіцах).

Царкоўную назву «Успенне» ў народзе тлумачылі тым, што да гэтага дня спеюць розныя плады. Прачыстая была сапраўдным святам ураджаю, яна падводзіла вынік працы селяніна: «Свята Прачыста - поле ўрачыста», «Спажа - хлеба дзяжа». На Прачыстую ў цэрквах асвячалі новы хлеб, розную зеляніну. Асвяціўшы жыта, перамешвалі яго з астатнім і адкладвалі яго да наступнае сяўбы, каб новае збожжа добра расло. На Случчыне сустракалася такое павер'е: калі каго даймае асот, яго сцяблiну трэба ўвязаць у букет, пасвяціць, прывезці назад і на полі пасадзіць, то ён ужо не будзе расці.

Калі каму ўдавалася да свята не толькі паспець сабраць хлеб, але і пачаць заворваць, то таму хлебаробу гэта павінна было прынесці ў будучым большы ўраджай: «Да святка араць - лішнюю капу нажаць». Пра подых восені паведамлялася: «Прыйшла Прачыстая - зусім пацiснула». Адразу пасля свята пачыналася сяўба азіміны, і гаспадар мусіў быць падрыхтаваны: «Успленне - ці гатова насенне?» Часам у народзе назва гэтага свята ўдакладнялася: Вялікая, Большая ці Першая Прачыстая, паколькі існавала яшчэ Малая, Меншая, Другая Прачыстая (21 верасня), пад якой меўся на ўвазе дзень Нараджэння Маці Божай. Абодва гэтыя святы ўвязваліся адно з адным у вуснай паэзіі: «Больша Прачыстая снапкі падаець, Менша Прачыста снапкі складаець»; г.зн., калі да першага свята гаспадару неабходна звезці збожжа з поля, то на другое ўраджай павінен ужо быць складзены ў гумне.

**УЛАДЗІМІР ВАСІЛЕВІЧ**



*У Наваградку.* **Фота Міры Лукшы**

## ДЛЯ САМЫХ МАЛЕНЬКІХ

СТАНІСЛАЎ ШУШКЕВІЧ

### НЕ БЫЛІ МЫ Ў АФРЫЦЫ

- Пацямнелі тварыкі,
Пацямнелі ножкі...
Дзе ж вы загаралі,
Малышаты-крошкі?
Можа былі вы ў Афрыцы?
Можа ў Інданезіі?
Вы адкуль прыехалі?
Вы адкуль прывезены?
Толькі вочкі сінія,
Сінія, глыбокія...
Пэўна, вы паўднёвыя,
Пэўна, вы далёкія?
- Мы жывем у садзіку,
Садзіку дзіцячым.
Хіба ж там ніколі
Нас ніхто не бачыў?
Гэта ж наша сонейка
Ласкава сагрэла,
Запаліла тварыкі,
Пацямніла цела.
Не былі мы ў Афрыцы,
Не былі і ў Азіі,
Вось на гэтым дворыку
Бегалі і лазілі.



### КУКАРЭКА-НЕДАРЭКА

Ходзіць курачка ля току
І сакоча:
- Ко-ку! Ко-ку!
Як зляцела з седала,
Я яшчэ не снедала.
Назбіраю я зярнят
Для сябе і куранят.

- Ку-ка-рэ-ку! Ку-ка-рэ-ку! -
Крыкнуў пеўнік:
- Небяспека!
Вунь вылазяць з-пад гары
Два зубастыя тхары,
А у небе па-над токам
Ястраб кружыцца высока.
Ку-ка-рэ-ку! Ліхадзеі!
Куракрады і зладзеі!
Ку-ка-рэ-ку! Кох-кудах!
Жах і страх! Жах і страх!

- Ах, які ж ты недарэка,
Галасісты Кукарэка!
Паглядзі і разбяры,
Ды якія там тхары?
Гэта ж карапузікі,
Два сабачкі Тузікі,
А у небе між аблокаў
Галубок ляціць над токам,
Ах, які ж ты недарэка,
Галасісты Кукарэка.



# РАКАВІНКА

Сонца ў зеніце. Бязвоблачнае неба быццам чыста вымытае шкло.

Змарыўшыся ад паўдзённай гарачыні, мае спадарожнікі-дванаццацігадовыя хлопцы, школьныя тварышы майго сына Сяргея, час ад часу паўтараюць: «Ох, горача! Піць хочацца...»

Я і сам ведаю, што патрэбна вада. Дзе ж яе знайсці, калі да бліжэйшай вёскі кіламетры два.

- Трымайцеся, хлопцы, - падбадзёрваю іх, а сам выбіраю карацейшы шлях да калодзежа.

Мы выйшлі на квітнеючы луг, і Сяргейка раптам памчаўся ўперад. Дагнаў я яго з хлопцамі ўжо каля ручая. Ён стаяў у вадзе, склаўшы далоні, набіраў у іх ваду і прагна піў. Потым нагнуўся, прыгледзеўся і ціха прамовіў, нібыта баючыся каго спудзіць:

- Глядзіце якая...

- Хто? - запытаўся я.

- Ракавінка. Што яна робіць?

«Вось дык пытанне, - сам сабе думаю. - Сапраўды, што яна робіць, ракавінка, у гэтым невялічкім ручайку, які цячэ непадалёку ад вёскі?»

Узяў яе ў руку, паклаў на далонь - гэта ўсім вядомая рачная ракавінка. На верхнім краі кожнай створкі - зубчыкі і паглыбленні для іх. Атрымліваецца замок - не адкрыеш.

- А іх тут многа! - радуюцца хлопцы і пачынаюць лічыць: - Пяць, дзесяць... а вунь там яшчэ чатыры...

Побач з намі была лужына, і, паказаўшы на яе, я спытаў:

- Дзе вада чысцейшая - у ручаі ці ў лужыне?

Усе разам адказалі:

- У ручаі, вядома ж. У ім вада чыстая і смачная. - Мае субяседнікі не ведалі тады, што ручай ачышчаецца не толькі сам па сабе, калі струменіцца. Ваду ачышчаюць, прапускаючы праз сябе, і ракавінкі. Жывыя нястомныя фільтры! Незлічоная армія падводных працаўнікоў!

Чалавек чалавеку робіць дабро - людзі дзякуюць адзін аднаму, робіць дабро і невядомая ракавінка ў ручаі.

Сама па сабе прыйшла думка: з году ў год гэтых жывых фільтраў становіцца ўсё менш і менш. Калі рэчка або ручай не лясны, а цячэ праз поле, адкуль з дажджавой вадой сцякаюць мінеральныя ўгнаенні ці ядавітыя хімікаты, у такой рэчцы ці ручаі многіх ракавінак ужо няма. Вада без іх мутнее.

- Цяпер вы разумееце, што робіць ракавінка? - спытаў я ў хлопцаў.

- Зразумелі. Усім раскажам у школе пра гэта. - І толькі што сабраныя для акварыума ракавінкі хлопцы дружна апусцілі ў ваду.

**УЛАДЗІМІР ШКАБРОЎ**



*Апошнія дні лета.* **Фота Міры Лукшы**

# КІРУШКІ–НЕПАСЛУШКІ

**КАЗКА**

Жыў-быў у адным горадзе хлопчык Кірушка. Дружбакоў ён падабраў такіх жа непаслухмяных, як і сам. Не слухалі яны ні маці з бацькам, ні дзеда з бабкай. І ўсіх іх празвалі за гэта Кірушкамі-непаслушкамі.

Цярпелі бацькі, цярпелі і рашылі правучыць непаслушак. Угаварылі машыніста электрычкі, каб завёз іх на лясную станцыю і ссадзіў там.

Узрадаваліся непаслушкі: адны, без дарослых, будуць рабіць усё, што захочуць. Прыехалі ў лес, сышлі з электрычкі і пачалі сваволнічаць. Хто кусты ломіць, хто па дрэвах лазіць, хто па траве качаецца. Пад вечар прагаладаліся, а есці няма чаго. Пачалі плакаць, крычаць.

Праходзіў міма мядзведзь, спыніўся і пытае:

- Ці не мае тут дзеці плачуць?

- Не! Не! - закрычалі хлапчукі. - Гэта мы, Кірушкі-непаслушкі!

- А мае дзеці паслухмяныя, - сказаў мядзведзь і пайшоў далей.

Пачуў крыкі воўк. Таксама спытаў, ці не яго тут дзеці плачуць. Дведаўся, што гэта Кірушкі-непаслушкі, і кажа:

- Вы мне і патрэбны! Я вас трохі падкармлю і з'ем!

Загнаў воўк хлапчукоў у глыбокую яму. Прынёс сухіх костак, загадвае:

- Частуйцеся і чакайце, калі я прыйду!

Кірушкі-непаслушкі яшчэ мацней загаласілі. Пачуў іх шэры зайчык, падышоў да ямы і пытае:

- Чаго вы так плачаце, ваўчаняты?

- Мы не ваўчаняты, - адказваюць хлапчукі. - Мы Кірушкі-непаслушкі! Нас воўк з'есці хоча!

Прынёс зайчык доўгую жэрдку, апусціў у яму, памог хлапчукам выбрацца на волю. І павёў іх дадому, у горад.

А бацькі ўжо непакояцца: як забраць з лесу дзяцей? Глядзяць, аж непаслушкі самі ідуць, а ўперадзе - шэры зайчык.

- Бач, якія спрытныя нашы дзеці, - радуюцца бацькі. - Зайчыка гоняць дадому!

Пачулі хлапчукі і крычаць:

- Не чапайце зайчыка! Ён нас ад ваўка выратаваў!

Бацькі пасадзілі зайчыка на лаўку ў двары, пачалі частаваць. Хто моркву прынёс, хто галоўку капусты, хто цукерак. Цукерак, праўда, зайчык не ўзяў, а за моркву і капусту падзякаваў. І пабег назад у лес.

А непаслушкі сталі добрымі хлапчукамі. І ў кожнага з іх цяпер ёсць сваё імя.



**МАРЫЯ МІНАВА**

# ЗАЯЦ

*Працяг са стар. 9*

яна называецца? Ну, канечне - «У зайца»! Пакліч як мага больш хлапчукоў і дзяўчатак. Усе вазьміцеся за рукі і ўтварыце кола. А два гульцы, каго вы вызначылі праз зайцаву лічылку, няхай стануць асобна. Гэта - заяц і хорт. Хартамі даўней называлі самых хуткіх сабак. Хорт павінен злавіць зайца, які ўцякае і хаваецца. Цяжка харту, бо перад ім заўсёды апускаюцца рукі, тады як перад зайцам іх падымаюць угору. І ўсё-ткі спрытны хорт павінен злавіць зайца. А як зловіць - пачне яго шчыпаць ці казытаць. Тады ўсе кідаюцца бараніць зайца. Смеху - поўны мех.

Калі ж усе супакояцца, зноўку, праз лічылку, трэба выбраць зайца і харта. Гульня пачынаецца спачатку. Цікавая і вясёлая, як зайцавы скокі.

**УЛАДЗІМІР ЯГОЎДЗІЗК**




Міхаська:
- Тата, што такое таямніца?
- Гэта... гэта, ну, такое слова, якое чалавек нават пад катаваннем не павінен гаварыць.
- Вось і добра! Значыць, ты не скажаш маме, што я разбіў слоік з варэннем!

ххх

- Мама, ці магу апрануць тваю новую блузачку? - пытае Элачка.
- Вядома, бяры. Але што здарылася, што ты пытаеш дазволу?
- Бо не магу яе знайсці.

ххх

Бацька:
- Пецька, не цягні ката за хвост!
- Я не цягну... Я толькі трымаю, а ён сам цягне!

ххх

- Коля, ты зноў атрымаў двойку, - дакарае бацька. - Мо ты не разумееш пытанняў настаўніка?
- Якраз наадварот. Гэта ён не разумее маіх адказаў.

ххх

Маці пытае ў сына:
- Сярожа, ты ўрокі зрабіў?
- Зрабіў.
- А што вам задалі?
- Нічога.

ххх

Унук пытае дзеда:
- Дзеду, а дзе падзеліся твае валасы?
- Павылазілі.
- Гэта ж у бабулі павылазілі, бо такія доўгія, а твае - хіба схаваліся?..

ххх

Сын:
- Мама, чаму наш пакой не круглы?
- Чаму пытаеш, сынок?
- Бо калі б пакой быў круглы, ты не магла б пасláць мяне ў кут!

**ЯСЕНЬ**

 

**НІНА АМЕЛЬЯНЮК**

# ГУТАРКІ АБ МОВЕ

**IV. СУЧАСНАЯ БЕЛАРУСКАЯ ЛІТАРАТУРНАЯ МОВА.**

**ЛЕКСІКАЛОГІЯ.**

**14. Дысферэнцыяцыя лексікі паводле сферы яе выкарыстання - працяг.**

**Прафесіяналізмы.** Да прафесіяльнай лексікі адносяцца словы, якія служаць для абазначэння прадметаў і паняццяў у галіне той ці іншай прафесіі: *бондарства, пчалярства, рыбалоўства, сталярства...* Прафесіяналізмы набліжаюцца па сваёй функцыі да тэрмінаў, але адрозніваюцца ад іх тым, што зя'ўляюцца паўафіцыйнымі назвамі спецыяльных паняццяў і бытуюць у вуснай мове.

Па-за межамі канкрэтнай прафесіі ці спецыяльнасці прафесіяналізмы найчасцей астаюцца невядомымі. «Напрыклад, слова *плытагон* вядома ўсім носьбітам мовы як агульная назва асобы пэўнай прафесіі. І хоць у лексіцы плытагонаў вядомы яшчэ такія назвы рабочых на лесасплаве, як *атаман, будачнік, выплаўшчык, вязчык, галаўнік, заднік, караваншчык, корнік, лотачнік, сплотчык, цёшчык, шрыковы* і інш., гэтыя назвы зразумелы пераважна толькі для прадстаўнікоў данай прафесіі. Іншыя носьбіты мовы карыстаюцца агульнай назвай *плытагон*, і гэта не выклікае непаразуменняў, таму што для прадстаўнікоў другіх прафесій падобная дэталізацыя неістотная»1.

**Жарганізмы.** Жарганізамамі называюцца словы, якімі карыстаюцца пэўныя сацыяльныя групы людзей у вуснай гутарковай мове замест агульнанародных слоў. Гэта словы з ярка выражанай эмацыянальна-экспрэсіўнай афарбоўкай: *зубрылка* - у мове школьнікаў /асоба якая бяссэнсава вывучае што-небудзь/, *абаранак* - у мове шафёраў /рулявое кола/, *ляп* - у мове паліграфістаў /грубая памылка/. Падзяляюцца яны на дзве групы:

- уласнажаргонныя словы, як напр.: з мовы студэнтаў - *арганіка* /арганічная хімія/, *урматы* /ўраўненні матэматычнай фізікі/, *фізра* /фізічная культура/; з мовы шафёраў - *запаска* /запаснае кола/;

- агульнанародныя словы, якія як жарганізмы выступаюць у пераносным ужыванні, напр.: *продкі* /бацькі/, *жалезны* /надзейны/.2

У залежнасці ад суадносін агульнанароднай і жаргоннай лексікі, сярод жарганізмаў выдзяляюцца:

- словаўтваральныя, якія з'яўляюцца абрэвіятурамі, ўтворанымі ад агульнанародных простых ці састаўных назваў: *фак* - факультэт, *лабы* - лабараторныя работы;

- лексічныя, якім ў літаратурнай мове адпавядаюць словы з іншай асновай: *вуркагон* - злодзей, *ляп* - памылка;

- семантычныя, якія ў вымаўленні і напісанні супадаюць з агульнанароднымі, а адрозніваюцца значэннем: *самавары* /мінамёты/.3

«Дыялектызмы, тэрміны, прафесіяналізмы і жарганізмы з'яўляюцца яркім сродкам характэрыстыкі персанажаў, індывідуалізацыі іх мовы. Майстры мастацкага слова, ўдала і з пачуццём меры выкарыстоўваючы лексіку абмежаванага ўжывання, ствараюць паўнакроўныя вобразы, раскрываюць рысы іх характару, асаблівасці жыцця і побыту людзей рознага асяроддзя.»4

———

1 В. П. Красней, У. М. Лазоўскі, І. М. Шчарбакова, Сучасная беларуская мова. Лексікалогія. Фразеалогія, Мінск 1984, с. 80

2 Там жа, с. 81.

3 Там жа, с. 81-82.

4 В. П. Красней, Лексіка і фразеалогія беларускай мовы, Мінск 1982, с. 91




**СЭЛЕРЫ ПА-ФРАНЦУЗСКУ**

На 80 дэкаў сэлераў трэба ўзяць 4 лыжкі алею, 2 лыжкі масла, 1 лімон, соль, перац, 3 лыжкі пасечаных лісткоў эстрагону.

Сэлеры памыць шчотачкай, палажыць у пасолены кіпецень, зварыць. Павінны яны быць крыху цвердаватыя. Адцадзіць, астудзіць, нарэзаць скрылёчкамі ці стоўбікамі, пасыпаць перцам і класці на патэльню з разагрэтым алеем і маслам. Падсмажаныя сэлеры палажыць на падагрэтую талерку, пасыпаць соллю, спырснуць лімонным сокам, пасыпаць раўнамерна эстрагонам.

Падаваць да страў з мяса, але можна і як самастойную страву.

**СЭЛЕРЫ З ЦЕСТАМ**

На 80 дэкаў сэлераў трэба ўзяць 1 шклянку мукі, 4 жаўткі, 2 лыжкі алею, 1 лыжачку цукру, малако, напалавіну змешанае з салодкай смятанкай, шмалец.

Сэлеры падрыхтаваць і зварыць, як у змешчаным вышэй рэцэпце. Астудзіць. Муку прасеяць, дадаць жаўткі, алей, цукар, крыху солі. Расцерці драўлянай лыжкай цеста так, каб атрымалася гладкая маса. Развесці яго напераменну малаком і смятанкай, каб атрымалася гушчыня кіслай смятаны. Астуджаныя сэлеры нарэзаць паўкружкамі таўшчынёю каля 1 см. Мачаць іх у цеста, вымаць відэльцам проста на патэльню з разагрэтым тлушчам. Смажыць з абодвух бакоў. Пасыпаць соллю, пераламыць на падагрэтую талерку.

Падаюць гэтую страву гарачай, з лімонам, парэзаным на часцінкі.

**ЗАПЯКАНКА З ЦВЯТНОЙ КАПУСТЫ**

На адзін вялікі качан цвятной капусты трэба ўзяць 10 дэкаў жоўтага сыру, 10 дэкаў варанага нятлустага бачку, 1 шклянку смятанкі, паўшклянкі малака, 4 яйкі, 1 лыжку масла, 1 лыжку мукі, соль, перац, дробна пасечаны кроп.

Цвятную капусту памыць, падзяліць на ружачкі, палажыць у пасолены кіпецень, варыць на працягу 8 мінут, адцадзіць. Бачок дробра нарэзаць. Яйкі выліць у каструльку і збіць іх як на амлет. Пад канец збівання дадаць прасеяную муку. Збіваючы далей, спалучыць масу з цёплым малаком, а пасля дадаць смятанку, соль і перац.

Вогнетрывалы посуд змазаць маслам, палажыць у яго цвятную капусту, перамешаную з бачком. Адлажыць дзве лыжкі сыру, рэшту перамяшаць з соусам і заліць ім страву. Зверху пасыпаць астаўленым сырам, запячы, пасыпаць кропам і адразу падаваць.

**ЗАПЯКАНКА З ЦВЯТНОЙ КАПУСТЫ І ПЯЧУРЫЦ**

На адзін даволі вялікі качан цвятной капусты трэба ўзяць 30 дэкаў пячурыц, 3 крутыя яйкі, паўшклянкі алею, 2 лыжкі мукі, паўшклянкі смятаны, 2 сырыя жаўткі, 4 лыжкі сцертага жоўтага сыру, 1 лыжку масла, 1 лыжку сцертай на тарцы сухой булкі, 3 лыжкі пасечанай залёнай пятрушкі, соль, цукар, перац.

Зварыць цвятную капусту так, каб была цвердаватая, адцадзіць. Вогнетрывалы посуд змазаць маслам і пасыпаць сцертай булкай. Пячурыцы памыць, дробна парэзаць, кінуць на патэльню з разагрэтым тлушчам і крыху падсмажыць. Даліць 3 лыжкі гарачай вады, стушыць грыбы пад покрыўкай. Пад канец пасыпаць іх мукой, перамяшаць, дадаць смятану. Закіпяціць, зняць з агню, хутка перамяшаць з сырымі жаўткамі, дадаць солі і цукру.

Цвятную капусту падзяліць на ружачкі, палажыць яе ў падрыхтаваны посуд разам з чвэрткамі вараных яек. Заліць соусам з пячурыц, уставіць у гарачую духоўку і запячы /10-15 мінут/.

Выняўшы запяканку з духоўкі, аздобіць яе нарэзанымі памідорамі і пасыпаць пасечанай зелянінай. Падаваць адразу гарачай з бульбай ці хлебам.

**ГАСПАДЫНЯ**

# МАЛА, АЛЕ ЦІКАВА

**АМАЛЬ УСЁ АБ ПЧОЛАХ**

* Малюнкі знойдзеныя ў святынях і магілах фараонаў, сведчаць, што гадоўля пчолаў была ўжо вядомай у Егіпце 5 тысяч год таму назад.

* У пчаліным роі ёсць ад 20-30 тысяч работніц, з якіх палова займаецца збіраннем мёду. Ёсць таксама каля 300 трутняў. У большых раях ёсць нават 70-90 тысяч пчол.

* Штогод родзяцца маладыя маткі. Яшчэ перад з'яўленнем першай з іх, старая матка пакідае вулей разам з часткай работніц і шукае новага месца.

* У сонечны дзень кожная пчала, якая займаецца збіраннем мёду, вылятае з вулея каля 10 разоў. За кожным разам прыносіць у вулей 0,05 грамаў нектару. Такія пчолы з аднаго вулея наведваюць за дзень каля 250 тысяч кветак. Каб сабраць 1 кілаграм мёду, пчолы ў пошуках кветак пралятаюць усе разам каля 200 тысяч кіламетраў.

* Калі ў аколіцы няма кветак з нектарам пчолы збіраюць салодкую вадкасць на лісцях дуба, бука і ліпы.

* Сярэдняя вага аднаго роя 3 кілаграмы.

* Мёд мае розныя адценні колераў у залежнасці ад гатунку кветак, з якіх ён сабраны. Мёд з белай канюшыны будзе бурштынавага, а мёд з верасу - чырвона-бронзавага колеру. Найбольшы попыт мае мёд з акацый.

* Калісьці ў Амерыцы не было пчол. Завезлі іх туды з Галандіі ў 1621 годзе.

* Кажуць, што пчаляры найбольш здаровыя і даўгавечныя людзі. І не дзіва: мёд робіць вельмі добры ўплыў на працу сэрца і ён вельмі сытны для арганізма.

/а-ця/




Дарагі Астроне, пэўна, у нас на рабоце нешта здарыцца, бо сніцца мне вось такое. У біюровым пакоі гасціна. Застаўленыя сталы. Ну, і печанае куранятна сталe - цэлае! Да гэтага куранаці дарваўся наш калега і сабе загарнуў найбольшы кавалак, цэлую грудзінку. Я кажу, што гэта вялікі кусок, але гэтае мяса сухаватае, не такое добрае. На другую талерку кінуў камусьці маленькі кусочак, але гэта мяса сакавітае, смачнае. Я падумала - кусочак маленькі, але вельмі смачны і можна наесціся. Што можа абазначаць гэты сон?

**Надзя**

Астроне, мне прыснілася, што мая ўнучка каля нашага блёку паставіла высока ўгару крэсла на крэсла і нейкія табурэткі і ўлезла на іх. Я вельмі баюся, што яна зваліцца. Уся гэтая канструкцыя хістаецца, яна вельмі няпэўная. Я яе прытрымліваю, каб з унучкай нічога не здарылася, і яна паволі сыходзіць уніз.

**Анна**

Надзя! Напэўна нешта здарыцца. Твой сон прадвяшчае таму калегу, які табе прысніўся, што нешта выйдзе ў яго не так, як планаваў. Вось загарнуў сабе найвялікшы кавалак печанага кураняці, як пішаш, цэлую грудзінку, а высветлілася, што яна сухая і нясмачная. А той, каму ён кінуў на талерку маленькі кавалачак, больш скарыстаў, бо мяса было сакавітае і смачнае. Так заўсёды бывае, калі хто занадта многа хоча. Можна пры нагодзе страціць і ўсё.

Анна! Твой сон гаворыць аб нейкай пагрозе тваёй унучцы. Можа будзе нейкі небяспечны для яе момант у сувязі з хваробай. Але ты паможаш ёй і ўсё скончыцца добра.

**АСТРОН**

**АБ'ЯВА**





 

# АНЕКДОТЫ

- Гэта вы выратавалі майго сына, калі ён тапіўся?
- Я.
- А дзе яго шапка?

***

Адзін другога пытае:
- Ты спіш з ёю кожную ноч. Чаму не ажэнішся?
- Ажаніцца? А куды я тады буду хадзіць спаць?

***

Сустрэліся на вуліцы дзве знаёмыя:
- Адкуль ты ідзеш?
- У маці была. Напякла яна пірагоў, варэння наварыла.
- Добра табе - усё ад маці ды ад маці. А да маці нічога не носіш?
- Як гэта, не нашу!? Кожны тыдзень нашу да яе бялізну, каб памыла.

***

Прыйшоў адзін у аптэку і кажа:
- Дайце мне той масці, што раны гоіць.
- А вялікая ў вас рана? - пытае аптэкар.
- Хто яго ведае, якая будзе? Я ж толькі яшчэ іду на вяселле.

***

- У мяне пяць сыноў і толькі адна нявестка.
- Цешся! У мяне адзін сын, а пяць нявестак!

***

- Хто ў вашай сям'і наймацнейшы?
- Бабуля.
- Чаму?
- Бо яна ўсё і за ўсіх робіць.

***

- Ах, дазвольце мне з'явіцца пані ў сне...
- Калі ласка, вось пану мой адрас.

Падборку зрабіў
**ЯСЕНЬ**






*Мал. Ігара Варашкевіча.*

# МА КАТ РАЗМЫ

**У СУСЕДЗЯЎ**

Касіў Ясь Канюшыну
за тварышаў-паноў.
- Хто цяпер ты?
- Фермер слынны...
Без кашулі і штаноў.

**ВЕТЛІВЫ**

- Праходзьце наперад!..
У нерат.

**СІДАР МАКАЦЁР**

**З ПАДСЛУХАНАГА**

**Курыца:** - Час, дарагія сяброўкі, і нам на свае седала, бо сонцу трэба таксама даць якую хвілю на адпачынак.

**Карась:** - Мне здаецца, што шчупаку няма сэнсу мець такую зубастую зяпу.

Запісаў **М. Підорын**

# ВОДПУСК

**Муж:** Ужо пяты раз у водпуску ў гэтым захалусці. Хіба звар'яцею. Што тут рабіць? Зараз, зараз... Гэтая афіцыянтка зусім някепская. Ходзіць як кошка. А ногі! Прыгажэйшая за маю жонку. Мабыць і больш інтэлігентная. Так, безумоўна.

**Жонка:** Паўгадзіны чакаць дурнога абеду! Гэтае чучала варушыцца як муха ў смале. Скуль бяруцца такія худзізны? Магла б прычасацца, а то яшчэ поўсць у суп упадзе. А якое ж адзенне! Зусім без смаку. Малпа.

**Муж:** Чаго ж жонка бурчыць? Пэўна адчувае розніцу... Гэтая афіцыянтка фантастычная дзяўчына. Каб мог я пагладзіць яе па пушыстых валасах... Ох! Падыходзіць! Цудоўная! Цудоўная!

**Жонка:** Пайшла ў кухню. Што ж за абслугоўванне! Хамства. А ён не пераймаецца гэтым. Толькі ўздыхае. Бяздумна глядзіць у талерку. Як заўсёды думае толькі пра ежу. Абжора. Ну, прынамсі кіраўнік рэстарана прыстойны...

**Муж:** Была так блізка... Яна не ходзіць, а плыве, быццам фрэгат. А жонка валачэ задніцу, як здохлы насарог.

**Жонка:** Урэшце захацела падысці. Штурханула локцем гэтага дурня, аж галава яму затраслася. Добра яму так. А кіраўнік падобны на Апалона. Сапраўдны мужчына... Пагляджу на мяне трэці раз.

**Муж:** Невыпадкова дакранулася да мяне... Цудоўная! Цяпер трэба ўцягнуць жывот, пакласці на стол ключыкі ад «Мерседэса» і з'есці смачны супок. Відаць, водпуск будзе цікавы...

**Жонка:** Твар яму пачырванеў. Відаць, не падабаецца яму абслугоўванне. Божа! Выцягнуў ключыкі! Не захоча хіба вяртацца назад???

**Муж:** Чаго ж яна так расхвалявалася? Увесь час глядзіць у бок кіраўніка. Відаць, абслугоўванне ёй не падабаецца. Хіба не захоча вяртацца???

**МАРК МАРЛІКОЎСКІ**




# КРЫЖАВАНКА

**Упоперак:** 1/ група ўючных жывёл і людзей у пустыні, 7/ падбярозавік, бабка, 8/ чырвоны плод агароднай расліны, 9/ жыхарка Пярэдняй Азіі або Паўночнай Афрыкі, 10/ абмеркаванне з мэтай прыняцця рашэння, 11/ жаночае імя, 15/ лампада, 19/ венецыянская лодка, 20/ дошка для пераходу цераз балота, 21/ здольнасць цвярозa ацэньваць сапраўдныя ўмовы рэчаіснасці, 22/ дрэвавая лягушка, 23/ навучэнец паскоранай формы падрыхтоўкі кадраў.

**Уніз:** 1/ капіравальная папера, 2/ пост у мусульман, 3/ сябра лыжкі і нажа, 4/ пасяджэнне, сход, 5/ падрахунак прыходу і расходу, 6/ міні-панадворак на паверсе жыллёвага блёка, 12/ міфалагічны конь з чалавечым торсам, 13/ наваколле, 14/ нягоднік, грубіян, ашуканец, 16/ трэба ёю варушыць, але нельга яе згубіць, 17/ паказальнік, спіс, пералік, 18/ астатак недагарэлай свечкі.

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца прышлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на разетку з 28 н-ра. Управа:** нявoля, нізіна, навала, накаўт, натура, немата, надпіс, нянька. **Улева:** Нанкін, навука, назола, навіна, нікель, натоўп, намеры, нудота.

Кніжныя ўзнагароды атрымоўваюць: Анна Дземяюк з Бельска-Падляшскага і Барбара Гура з Любліна.




**"Niwa"**
ul. Suraska 1, 15-950 Białystok, skr. poczt. 149, tel.210-33.
Druk: "ORTHDRUK", Białystok, ul. Antoniuk Fabryczny 13.

**Tygodnik białoruski sponsorowany przez Ministerstwo Kultury i Sztuki.**

**Рэдагуе калектыў:**

Мікола Ваўранюк, Віталь Луба (в.а. галоўнага рэдактара), Міраслава Лукша, Аляксандр Максімюк, Ян Максімюк, Яўгенія Палоцкая (кіраўнік канцылярыі), Яланта Панфілюк (карэктар), Уладзіслаў Петрук (мастак), Галіна Раманюк і Марыя Федарук (машыністкі), Ада Чачуга (адказны сакратар).

**Prenumerata.**
1. Termin wpłat na prenumeratę na IV kwartał upływa 20 sierpnia 1992 r.
2. Cena prenumeraty kwartalnej wynosi 26 000 zł.
3. Cena prenumeraty z wysyłką za granicę jest większa o 100% i przyjmowana jest tylko na okresy kwartalne. Wpłaty przyjmuje Zakład Kolportażu Prasy i Wydawnictw, Warszawa, ul. Towarowa 28.
Nr konta PBK XIII Oddział Warszawa 370044-1195-139-11.
4. Prenumeratę można zamówić w redakcji. Cena 1 egz. wraz z wysyłką wynosi 3500 zł., a kwartalnie - 45.500 zł. Wpłaty przyjmuje Rada Programowa Tygodnika "Niwa", Białystok, ul. Suraska 1, nr konta PBK SA, I Oddział Białystok, 370406-207917-132

Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.